ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (66) верасень 2016 год

CATHOLICNEWS.BY

## Сафія Гуз: Я зараз бачу больш, чым тады, калі мела зрок

Стар. 8

### Касцёл у Селішчы: гісторыя і сучаснасць



Стар. 6

### Адпустовая ўрачыстасць у Параф'янаве



Стар. 5

### Урачыстасці ў Шаркаўшчыне



Стар. 3-4

### Праўда пра інквізіцыю



Стар. 11

# Маці Тэрэза з Калькуты – святая

**Каталіцкі Касцёл мае новую святую. 4 верасня 2016 г. падчас урачыстай Эўхарыстыі на плошчы св. Пятра Папа Францішак кананізаваў Маці Тэрэзу з Калькуты – заснавальніцу Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак Божай Любові.**

Гэта падзея стала кульмінацыяй сусветнай сустрэчы валанцёраў і супрацоўнікаў дабрачынных арганізацый, якая ў гэтыя дні праходзіць у Рыме ў межах Юбілею Міласэрнасці. У св. Імшы прынялі ўдзел больш за 100 тыс. вернікаў з розных краін свету. Абвяшчэнне Маці Тэрэзы святой яны віталі гучнымі і працяглымі апладысментамі.

У сваёй гаміліі Папа спаслаўся на біблійнае пытанне: «Хто можа зразумець, чаго жадае Пан?» (Мдр 9,13). «Богу падабаюцца ўсе ўчынкі міласэрнасці, бо ў брату, якому дапамагаем, распазнаём аблічча Бога, Якога ніхто не можа бачыць. Кожны раз, калі схіліліся над патрэбай братоў, мы далі есці і піць Езусу: апранулі, падтрымалі і адведалі Божага Сына», – сказаў Папа.



Паводле Францішка, «няма альтэрнатывы міласэрнасці: тыя, хто пачынае служыць братам, любяць Бога, нават не ведаючы гэтага». Пан кліча ўсіх сваіх вучняў прысвячаць жыццё служэнню, каб кожны дзень узрасталі ў любові, дадаў Папа.

Звяртаючыся да ўдзельнікаў Юбілею, валанцёраў і супрацоўнікаў дабрачынных арганізацый, Францішак адзначыў, што іх «хвалебнаеслужэннедаеголас веры і выяўляе міласэрнасць Айца, Які набліжаецца да тых, хто ў патрэбе».

«Як Пан выйшаў мне насустрач і нахіліўся нада мною ў момант патрэбы, таксама і я іду насустрач Яму і нахіляюся над тымі, хто страціў веру або жыве так, нібыта Бога не існуе, над моладдзю без каштоўнасцяў і ідэалаў, над сем'ямі ў крызісе, над хворымі і зняволенымі, над бежанцам і мігрантамі, над слабымі і безабароннымі целам і духам, над непаўнагадовымі, пакінутымі самім сабе, а таксама над пажылымі людзьмі, якія засталіся ў адзіноце. Дзе б ні была працягнутая рука, якая патрабуе дапамогі, каб падняцца, там павінна быць наша прысутнасць і прысутнасць Касцёла, які падтрымлівае і дорыць надзею», – сказаў Папа.

Маці Тэрэза з Калькуты, паводле Францішка, была «шчодрай даўцай Божай міласэрнасці, становячыся даступнай усім праз сваю адкрытасць і абарону чалавечага жыцця – ненароджанага, пакінутага і адрынутага», праз клопат пра тых, хто быў «пакінуты паміраць на дарожных узбочынах, распазнаючы годнасць, якую Бог ім даў».

Папа нагадаў, што Маці Тэрэза ўзвышала голас перад моцнымі гэтага свету, каб прызналі сваю віну за «злачынства беднасці», створанае імі. «Міласэрнасць была для яе «соллю», што надавала смак усім яе справам, і «святлом», якое асвятляла цемру тых, у каго не засталося нават слязінкі, каб аплакваць сваю беднасць і пакуты», – сказаў Святы Айцец.

«Яе місія на перыферыях гарадоў і існавання, застанецца ў нашых сэрцах, як красамоўнае сведчанне блізкасці Бога да найбяднейшых з бедных. Сёння, уручаю гэту эмблематычную постаць жанчыны і кансэкраванай асобы ўсяму свету валантарыяту: няхай яна будзе вашым прыкладам святасці! Гэтая нястомная слуга міласэрнасці няхай дапаможа нам усё больш разумець, што адзіным крытэрыем дзейнасці з'яўляецца бескарыслівая любоў, свабодная ад усялякіх ідэалогіі і абмежаванняў, скіраваная на ўсіх, незалежна ад іх мовы, культуры, расы ці рэлігіі», — сказаў Папа.

Напрыканцы сваёй гаміліі Пантыфік нагадаў словы, якія Маці Тэрэза любіла казаць адносна свайго служэння бедным: «Магчыма, я не ведаю іх мовы, але магу ўсміхацца». «Будзем несці ў сэрцы яе ўсмешку і адараць ёй тых, каго сустракаем на нашым шляху, асабліва пакутных. Такім чынам адкрыем перспектывы радасці і надзеі для многіх людзей, якія прыгнечаныя або маюць патрэбу разумення і чуласці», – падсумаваў Папа.

*Ватыканскае радыё*

## Фотафакт
## Біблія, якая ацалела пасля тэракту 11 верасня

"Вы чулі, што сказана: вока за вока і зуб за зуб, але калі нехта ўдарыць нас у правую шчаку, то трэба падставіць левую" (Мц 5, 38-39).

Біблія складаецца з вялікай колькасці раздзелаў і вершаў, аднак менавіта гэтыя словы з Нагорнай пропаведзі Хрыста можна прачытаць у Святым Пісанні, якое ўваходзіць у экспазіцыю Мемарыяльнага комплекса «Ground Zero» на месцы Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Ёрку.

Біблію, разгорнутую менавіта на гэтых словах, застылай у расплаўленым кавалку сталі, знайшлі праз некалькі месяцаў пасля тэракту 11 верасня пад заваламі паўднёвай вежы, паведамляе ucatholic.com. Пажарны, які знайшоў кнігу, паклікаў фатографа, і гэты момант удалося захаваць на стужцы. «Знішчаную, абгарэлую і пакрытую брудам Біблію я атрымаў з клапатлівых рук чалавека, які яе знайшоў. Ён ведаў, што я збіраю памяткі, звязаныя з трагедыяй, – кажа фатограф Мееровіч. – Я вельмі здзівіўся, калі ўбачыў словы, на якіх была адкрыта Біблія. Я зразумеў, што пасланне з Бібліі – вечнае, яно прамаўляе да людзей канкрэтнай эпохі ў адказ на канкрэтныя падзеі».



## Фотафакт
## Папа ў дзіцячым шпіталі

Пра каштоўнасць чалавечага жыцця ад самага яго пачатку да натуральнай смерці нагадаў Святы Айцец, наведаўшы 16 верасня 2016 г. дзве ўстановы ў Рыме: аддзяленне неанаталогіі ў шпіталі св. Яна і хоспіс "Villa Speranza". Візіты сталі часткай юбілейнай ініцыятывы "Пятніцы міласэрнасці", у межах якой Папа кожны месяц сустракаецца з людзьмі, которыя асабліва патрабуюць спагады.

*Ватыканскае радыё*




## Вялікі дзякуй!

З Божай дапамогай у канцы жніўня мы дачакаліся заканчэння працы над шостым па ліку алтаром святой Агаты. Доўгі час нашы парафіяне ахвотна збіралі ахвяры на гэтую важную справу. Цяпер мы будзем звяртацца ў сваіх малітвах да святой Агаты са сваімі патрэбамі: каб аберагала нас ад пажару, катастрофы, небяспекі падчас язды на транспарце, у падарожжах, каб накіроўвала нашых людзей рэлігійнай і пабожнай дарогай жыцця. Будзем прасіць Бога, каб праз пасярэдніцтва святой Агаты бярог нас і нашу Беларусь ад усялякай бяды на вякі вечныя.

За арганізацыю і кіраўніцтва ў справе ўстаноўкі алтара няхай Бог аддзячыць нашаму **ксяндзу-пробашчу Генрыку Акалатовічу**!

***З павагай, ад імя парафіян валожынскага касцёла святога Юзафа – Хрысціна Маркоўская***



# Святыя Місіі ў Шаркаўшчыне

**У шаркаўшчынскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа з 4-га па 11-га верасня адбыліся Святыя Місіі. Правялі іх айцы-аблаты.**

**Алена Клімза-Колтан**, *тэкст;* **Зміцер Лупач**, *фота*



Падзея, доўга чаканая мясцовымі вернікамі, стала добрай падрыхтоўкай да святкавання юбілею касцёла. Сёлета святыня адзначае 20-годдзе кансэкрацыі.

Варта нагадаць, што былы шаркаўшчынскі касцёл быў зачынены ў 1948 годзе і пераробраны ў зернясховішча, а ў 1963 годзе ўвогуле сцёрты з твару зямлі. Двухвежавая драўляная святыня знаходзілася на левым узбярэжжы Дзісёнкі, прыкладна на месцы, дзе цяпер месціцца Аграпрамбанк.

Па запрашэнні ксяндза Кшыштафа Сілкоўскага, які з'яўляецца пробашчам Шаркаўшчынскай парафіі, прыбылі айцы-місіянеры з супольнасці Аблаты Беззаганнай Панны Марыі. Айцец Анджэй Юхневіч з шумілінскай парафіі Маці Божай Фацімскай і святога Язафата Кунцэвіча і айцец Дзмітрый Занямонскі з мінскай парафіі святых Апосталаў Пятра і Паўла і святога Яўгена дэ Мазэно – прадстаўнікі манаскага ордэну, галоўнай харызмай якога з'яўляецца паказ Хрыста і Яго Валадарства найбольш пакінутым.

Святыя Місіі праводзіліся згодна з планам. Увесь тыдзень вернікі накіроўваліся ў святыню, нягледзячы на шматлікія восенськія справы, каб паўдзельнічаць у гістарычнай для парафіі падзеі і пачуць штосьці важнае для кожнага з іх. Такім чынам, кожны дзень тыдня быў прысвечаны разнастайным тэмам.

У панядзелак парафіяне падчас святой Імшы аднавілі веру. Кранальным момантам стала магчымасць дакранання да Найсвяцейшага Сакраманту, адчуванне блізкасці Бога. Аўторак быў прысвечаны памерлым. Пасля вячэрняй Эўхарыстыі вернікі сабраліся на каталіцкіх могілках, каб супольна з місіянерамі памаліцца пра супакой душ памерлых. Серада стала адмысловым днём. Падчас ранішняй святой Імшой у інтэнцыі хворых адбылося ўдзяленне сакраманту намашчэння. Вечарам казанне было прысвечана тэме сям'і і адбылося аднаўленне сужэнскай прысягі. Здаецца, у гэты дзень прышлі ў святыню тыя, хто на гады забыўся дарогу да касцёла. Плённасць Місій надзвычай адчувалася ў гэты дзень.

Галоўным місійным днём стаў чацвер: ён быў прысвечаны Эўхарыстыі. У пятніцу вернікі мелі магчымасць паяднацца з Богам і бліжнім, просячы прабачэння за ўчыненыя крыўды. У суботу – Марыйны дзень, бласлаўленне атрымалі самыя маленькія вернікі, парафіяне прынялі ўдзел у набажэнстве Ахвяравання парафіі Маці Божай.

Нядзеля стала апошнім днём Святых Місій. Падчас святочнай гаміліі святар падвёў вынік усіх місійных дзён. Айцец Дзмітрый звярнуў увагу на тое, што "крыж Езуса – самае важнае, гэты просты знак мае ў сабе ўсё". Напрыканцы святой Імшы шаркаўшчынскія вернікі аддзячылі цёплымі словамі і кветкамі айцам-місіянерам за тое, што кожны з парафіян праз іх крыху наблізіўся да Бога.

Пасля святой Імшы адбылося асвячэнне місійнага крыжа побач з касцёлам. З гэтага часу вернікі могуць атрымаць адпуст, адаруючы крыж цалаваннем, ідучы ў святыню. Таксама крыж будзе нагадваць пра цудоўныя восеньскія дні, калі многія імкнуліся да святыні паслухаць цудоўныя казанні, паўдзельнічаць у прыгожых набажэнствах. Кожны з вернікаў мае магчымасць працягнуць Святыя Місіі, чытаючы кнігу айца Казіміра Любавіцкага "Рэкалекцыі са святым Яўгенам дэ Мазэно", якая была выдадзена да 200-годдзя супольнасці місіянераў-аблатаў Беззаганнай Панны Марыі і прывезена айцамі ў Шаркаўшчыну.

Вельмі радуе, што існуе цудоўная місійная традыцыя: праз год праводзіць аднаўленне Святых Місій. Будзем спадзявацца і верыць, што з айцамі-аблатамі мы зможам сустрэцца ў наступным годзе.

## а. Андрэй Букштан:
# Ніхто не нараджаецца святым, святымі становяцца

**У Новым Пагосце Шаркаўшчынскага дэканату ў суботу 17 верасня адбылася парафіяльная ўрачыстасць.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Яна была прысвечана атрыманню святым Францішкам стыгматаў, што адбылося 17 верасня 1223 года. Падчас малітвы на гары Альверна яму з'явіўся вобраз укрыжаванага серафіма. Калі ж гэты вобраз знік, на руках, нагах і грудзях Францішка засталіся стыгматы – раны на ўзор ранаў укрыжаванага Хрыста. Таму абраз, на якім адлюстравана гэта падзея, ёсць і ў касцёле ў Новым Пагосце.

Як распавядае пробашч касцёла ксёндз Аляксей Асон, у другой палове XIX стагоддзя касцёлам у Новым Пагосце некаторы час апякаваліся манахі-францішкане. З тых часоў і ўзнікла ў парафіі традыцыя – ушаноўваць дзень атрымання святым Францішкам стыгматаў. Урачыстасці заўсёды папярэднічала саракагадзіннае набажэнства, калі на працягу гэтага часу вернікі маліліся ў касцёле.

Праўда, потым традыцыя перарвалася. І вось сёлета адбылося яе адраджэнне.

Усе сорак гадзін у храме па чарзе маліліся людзі. Вельмі прыгожа глядзеўся асветлены касцёл уначы. А ў суботу а дзесятай гадзіне распачалася ўрачыстая Імша, на якую сабралася шмат вернікаў і святароў. Імшу ўзначаліў айцец Андрэй Букштан з Докшыц.

У сваім слове да вернікаў ён звярнуў увагу на святасць. Ксёндз адзначыў, што святымі людзі не нараджаюцца, імі становяцца. І жыццё святога Францішка тут можа быць прыкладам. "Але не трэба думаць, – адзначыў святар, – што святыя жылі толькі ў мінулыя часы. Яны ёсць і сёння. І тут прыкладам можа быць жыццё святога Папы Яна Паўла ІІ, а таксама святой Маці Тэрэзы з Калькуты".

Завяршылася богаслужэнне літаніяй да святога Францішка і ўрачыстай працэсіяй вакол касцёла, у якой прынялі ўдзел усе вернікі.



### Не спазніся...

Цемра паглынае нас знутры,
Калі светач мы не адчуваем,
Калі сэрца замярзае ў халады –
Значыць, Госпада ў яго мы не пускаем.

Калі сэнс загінуў у жыцці,
І няма жадання больш імкнуцца,
Шлях скрывіўся, сіл няма ісці –
Значыць, ты ад Бога адвярнуўся.

Паглядзі на неба, паглядзі.
Колькі чысціні там і пяшчоты!
Ён чакае цябе, верыш, падыдзі,
Даручы Яму свае турботы.

Не давай пыліцца ў цішы
Слову, што цябе накорміць Хлебам.
Знайдзі месца Госпаду ў душы,
Калі ходзіш ты яшчэ пад гэтым небам!

*Юлія Кісялевіч*

# Біскуп Алег Буткевіч:

# Гэта стацыя – мост, які злучае мінулае і сучаснасць




Стацыя важыць каля 350 кг. А іх было чатырнаццаць. Можна толькі здагадвацца, якіх памераў быў касцёл!

**У аўторак, 13 верасня, падчас тытульнага фэсту Узвышэння Святога Крыжа парафія ў Шаркаўшчыне адзначыла дваццацігадовы юбілей асвячэння касцёла.**

■ **Алена Клімза-Колтан**, *тэкст;* **Зміцер Лупач**, *фота*

Нягледзячы на працоўны дзень, святыня была перапоўненая вернікамі. Як пасля зазначыў біскуп, гэта вынік Місій, што адбыліся ў парафіі. На пачатку святой Імшы старажылы парафіі, якія сталі ля вытокаў яе адраджэння, хлебам-соллю прывіталі нашага пастыра – біскупа Алега Буткевіча. Іерарх ва ўступным слове ўзгадаў і пра апошняга пробашча былога касцёла – святой памяці Казіміра Радзішэўскага і спачылага ксяндза Юзафа Бульку, які стаў першым пробашчам адроджанай парафіі пасля бязбожных часоў. Кажучы пра 20-гадовы юбілей святыні, біскуп зазначыў, што гэта вельмі малады ўзрост, які мае насычаную гісторыю.

Біскуп назваў Божым дарам пакліканні з нашай парафіі. Ганаровымі гасцямі на свяце былі ксёндз-прэлат Францішак Кісель з Полацка – генеральны вікарый дыяцэзіі; кс. Чэслаў Куцмеж з Паставаў, былы пробашч Шаркаўшчыны; кс. Андрэй Сіповіч – пробашч парафіі Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыйскіх могілках у Мінску і кс. Аляксандр Фядотаў з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне – усе выхадцы з Шаркаўшчынскай парафіі. Сярод прысутных святароў былі: кс. Ян Пугачоў, кс. Марат Казлоўскі, кс. Аляксей Асон, а. Вальдэмар Куява, кс. Ежы Ноцунь, кс. Мікалай Ціхановіч, кс. Зянон Рамейка, кс. Станіслаў Мжыглуд і кс. Уладзімір Шыдлоўскі. У юбілейнай урачыстасці прынялі ўдзел прадстаўнікі мясцовай улады.

Падчас святочнай гаміліі біскуп Алег узгадаў трагічны лёс былой святыні, на месцы якой быў узведзены банк. Іерарх падкрэсліў, што матэрыяльныя каштоўнасці ніколі не заменяць духоўных. Таму і адбылося адраджэнне Шаркаўшчынскай парафіі і касцёла. Віцебскі ардынарый зазначыў, што крыж – гэта знак паяднання чалавека з Богам і бліжнім.

Напрыканцы святой Імшы адбылося асвячэнне рэліквіі парафіі – стацыі Крыжовага шляху з былой святыні. Пасля разбурэння касцёла ў 1963 годзе яна, цудам ацалелая, была вывезена вернікамі ў вёску Паянычы. У пачатку 90-х гадоў стацыю перадалі касцёлу ў Германавічах. А незадоўга да юбілею святыні яна ізноў вярнулася ў Шаркаўшчыну і была адрэстаўравана мастаком Віктарам Круком.

Іерарх назваў стацыю мостам, які злучае сучаснасць і мінулае і нагадвае пра памяць продкаў. Спецыяльна да ўрачыстасці выдалі кнігу пра гісторыю парафіі, якая была перададзена ў дар кожнаму ганароваму госцю. Радкі з верша Петруся Броўкі "Усё пакінуць след павінна" сталі лейтматывам цудоўна падрыхтаванай падзякі прысутным ганаровым гасцям.

Эўхарыстычная працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам па вуліцах мястэчка завяршыла святочную Літургію.

Падарункам да свята стаў невялічкі канцэрт, падрыхтаваны арганісткай Святланай Гірстун. Мясцовая моладзь парадавала прысутных выкананнем спеваў пад акампанемент гітары, прагучала некалькі кампазіцый на скрыпцы. Вельмі ўзрушыла юная паэтка Святлана Клімза, якая прачытала ўласны верш, дзе адлюстравана ўся трагічная гісторыя былой святыні.

Свята атрымалася такім жа цёплым, як і вераснёўскі дзень, калі ўсе дарогі вялі ў касцёл. Таму напрыканцы хочацца ўзгадаць словы біскупа Алега: "Калі дарогі ідуць да Бога і праз Бога, то ўсё павінна быць па-Божаму!"



Стары касцёл у Шаркаўшчыне, 1925 год



## Арганізатары няспыннай малітвы за Беларусь шукаюць адважных

**У няспыннай малітве за Беларусь засталося пяць начных і ранішніх гадзін. За паўтара года, якія трывае малітва, хтосьці далучыўся (пераважна на дзень і вечар), а хтосьці здаўся (пераважна ўначы і ранкам).**

У выніку атрымалася пяць разрываў: аўторак 07.00 - 08.00, чацвер 03.00 - 04.00, пятніца 02.00 - 03.00, пятніца 11.00 - 12.00, нядзеля 07.00 - 08.00.

*"Просім адважных стаць у праломе за Беларусь"*, – заклікаюць арганізатары. **Звязацца з імі можна па тэлефоне (8029) 593 71 60 (Воля) альбо праз пошту malitvazabielarus@gmail.com**

Няспынная малітва за Беларусь – кругласуткавая непарыўная малітоўная чарга мінімум 168 чалавек, кожны з якіх на працягу адной гадзіны раз на тыдзень моліцца за краіну. Перыяд малітвы – тыдзень, месяц, паўгода – кожны выбірае сам.

**Далучайцеся! Беларусь патрабуе нашай малітвы!**

# Фэст у гонар Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве

**У панядзелак, 12 верасня, у вёсцы Параф'янава Докшыцкага дэканату адбыўся фэст у гонар Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Нягледзячы на тое, што гэта быў працоўны дзень, у святыні сабралася каля паўтысячы вернікаў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Галоўная Імша ўрачыстасці распачалася а 16-й гадзіне. У ёй прынялі ўдзел ксяндзы Раман Мурзіч, пробашч парафіі ў Параф'янаве, Мікалай Ліпскі з Лучая, Віталь Галец з Ушачаў, айцы Марак Пасют і Андрэй Букштан, а таксама сёстры Надзея і Маргарыта з Докшыц. Акрамя парафіян на фэст прыехалі вернікі з Мінска, Глыбокага, Шаркаўшчыны, Ваўкалатаў, Лучая, з іншых мясцін нашай краіны.

Богаслужэнне правёў айцец Андрэй Букштан OFMCap, які зараз служыць у Докшыцах. У сваім слове да вернікаў ён звярнуў увагу на вобраз Марыі як Маці. "Маці з'яўляецца самым блізкім чалавекам у нашым жыцці, – адзначыў святар, – таму і Божая Маці з'яўляецца для нас усіх такой асобай. Яна дапамагае нам прыйсці да Бога. Часта чалавек, зграшыўшы, баіцца заглянуць у вочы Бога. І гэты страх з'явіўся ў людзей яшчэ з біблейскіх часоў, пасля таго, як змей спакусіў Еву... Але Бог ёсць любоў, і Ён стварыў чалавека для любові, – падкрэсліў святар, – таму няма такога граху, якога Бог не ў стане дараваць". Галоўнай умовай гэтага павінна быць толькі шчырае пакаянне чалавека. І ў гэтым яму дапаможа Марыя. Яна можа служыць нам прыкладам чысціні, сціпласці, пакоры.





Часта ў жыцці здараецца так, што чалавек імкнецца сваю віну перакласці на іншага: мужа, жонку, суседа, начальніка, падначаленага. Але за свае правіны трэба вучыцца несці адказнасць самому. І калі мы самі пачнём мяняцца ў лепшы бок, то тады і нашы бліжнія таксама зменяцца.

Як адзначыў айцец Андрэй, пачаць жыццё нанова ніколі не позна. Трэба толькі прыйсці да Марыі і ад шчырага сэрца папрасіць пра гэта. І Яна абавязкова дапаможа.

Падчас Імшы адбылася працэсія з дарамі. Вернікі паднеслі да алтара кветкі як сімвал прыгажосці свету, мёд і лекавыя расліны, што аздараўляюць нас фізічна, садавіну і хлеб, каторыя даюць нам фізічныя сілы, а таксама святыя дары: гостыю, віно і ваду, якія надаюць нам духоўныя сілы і яднаюць з Богам.

Напрыканцы святой Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, пасля чаго вернікі памаліліся літаніяй да Маці Божай. А па заканчэнні літаніі адбылася працэсія вакол касцёла, у якой прынялі ўдзел усе прысутныя.

Закончылася Імша спевам гімна "Цябе, Бога, праслаўляем", а пасля гімна хор праспяваў песню "Ave Maria", словы да якой напісаў Зянон Пазняк, а музыку – Ігар Лучанок.

Але святой Імшой уласна фэст не скончыўся. Гасцей свята чакаў яшчэ канцэрт на свежым паветры. На гэты раз парадаваць вернікаў сваім выступам прыехалі спявак Лявон Вольскі і саксафаніст Павел Аракелян. Лявон і Павел выступаюць тут не ўпершыню. Як прызналіся выканаўцы, перад касцельнай публікай ім даводзіцца выступаць толькі ў нас, на Віцебшчыне. Тут, у Параф'янаве, і ў Лучаі.

Пасля іх выступіў спявак Сяргей Савіцкі, які выканаў песні з рэпертуару ансамбля "Песняры". Калі песні Лявона Вольскага больш любяць слухаць гледачы маладога і сярэдняга веку, то выступ Сяргея, хутчэй, кранаў людзей старэйшых. Некаторыя нават танчыць павыходзілі!

Падчас канцэрту быў арганізаваны пачастунак для гасцей, які падрыхтавалі галоўныя спонсары ўрачыстасці. Так ксёндз Раман называе сваіх парафіян. Паспрыяла святу ў гэты раз і надвор'е, якое можна было назваць летнім, нягледзячы на тое, што на дварэ ўжо верасень.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Касцёл святой Веранікі ў Селішчы: гісторыя і сучаснасць



**Калі я ездзіла ў дзяцінстве да бабулі ў суседні Глыбоцкі раён, на шляху з Ушач да Івесі мяне заўсёды ўражваў будынак касцёла ў Селішчы.**

■ **Наталля Мізярска**, *гісторык*

Ён быў велічны, падобны да вялікай белай птушкі, якая прысела адпачыць на ўзвышшы. Здавалася, што праз некалькі хвілін гэтая птушка ўзмахне крыламі і паляціць туды, дзе яе вельмі чакаюць. Касцёл тады быў не такі зруйнаваны. "Што гэта за царква там была, чаму яна зруйнаваная так?" – пыталася я тады ў бацькоў. "Гэта былы касцёл, а знішчылі яго вайна і нядобрыя людзі" – адказвалі мне дарослыя. Нават разбураны, ён захапляў сваёй велічнасцю, бярог нейкую таямніцу былых падзей, якія там некалі адбываліся. Сапраўды, гістарычных падзей касцёл святой Веранікі зведаў нямала.

## Душпастыры

Храм быў пабудаваны на беразе возера Янава ў 1726 г. дзякуючы айцу Францішку Андрушкевічу OFM на ахвяраваныя грошы Яна Язэпа Рагозы, Езафата Антонія Сялявы і яго жонкі Элеаноры для ксяндзоў-бернардзінцаў. Ордэн бернардзінцаў тут быў скасаваны ў 1832 г., а былы кляштар стаў плябаніяй пры касцёле.

Першым пробашчам пасля айцоў-бернардзінцаў быў кс. Пісарскі, пасля – кс. Більскі, кс. Язэп Стэцкевіч, кс. Рыла, кс. Яновіч, а апошнія 15 гадоў – кс. Валентыновіч. Дзейны і добры гаспадар, які шмат зрабіў для Селішча: адрамантаваў вялікую плябанію, пафарбаваў унутры і звонку вялізны касцёл. З добрым пачуццём густу была зроблена ўся рэстаўрацыя, так што не быў зменены стыль і характар святыні.

Падчас паўстання Кастуся Каліноўскага 1863-1864 гг. у селішчанскім касцёле не раз збіралася людзі, неабыякавыя да лёсу Бацькаўшчыны. Гэта былі ксяндзы, члены сям'і шляхціча Маліноўскага з Чарапоўшчыны. Яны абмяркоўвалі падрыхтоўку да паўстання, тут шылі вопратку для паўстанцаў, спявалі жалобныя песні. Да 1868 г. у Селішчы працавала парафіяльная школа і існавала каталіцкае таварыства дабрачыннасці.

## Хто належаў да парафіі ў Селішчы?

У мястэчку Селішча жылі пераважна католікі. Парафія не была вельмі вялікай, бо частка людзей наведвала касцёл ва Ушачах, але налічвала 2100 асобаў, 10 двароў абшарніцкіх, шмат шляхты, сялян. Былі і чужынцы. Большасць парафіянаў займалася земляробствам, але немалая частка хадзіла на заробкі ўлетку. Шмат тут было муляроў і страхароў.

Селішчанскія парафіяне, праштосведчацьгістарычныя дакументы, былі вельмі прывязаныя да касцёла. Раней тут практыкаваўся звычай хадзіць па дамах з батлейкай падчас Божага Нараджэння. Напрыклад, паны Маліноўскія на касцельныя святы рабілі для сваіх сялян падарункі, разам спажывалі вігілійную вячэру, спявалі адвэнтовыя песні. Амаль усе парафіяне ўмелі чытаць па-польску.

## Арнаты са слуцкіх паясоў

Святыня ў Селішчы была вельмі прыгожай, з усіх старадаўніх гмахаў і кляштараў яна толькі адна захавалася. Касцёл узносіцца над двухпавярховым кляштарам, здалёк вабіць і ўражвае сваёй веліччу. Дзве зграбныя вежы нібы страляюць у неба. Касцёл вельмі высокі, а алтары, якіх было пяць, вызначаліся прыгожымі абразамі. Асабліва быў прыгожы алтар святога Антонія з анёлам, які топча д'ябла. Над галоўным алтаром некалі вісеў цудатворны абраз Маці Божай, што быў перавезены з кубліцкага касцёла. З успамінаў жыхаркі в. Рыбакі Ушацкага раёна: "Мне было 5 гадоў, як мяне ахрысцілі ў селішчанскім касцёле. Памятаю той абраз Маці Божай, увесь пакрыты срэбнымі шатамі. Яна глядзела на мяне быццам жывая, а я заплакала і адразу адчула палёгку на сэрцы. Кажуць, што гэты абраз не раз вылечваў людзей ад хваробаў". Падчас Другой сусветнай вайны абраз вывезлі немцы ў Германію.

> **"Некалі велічны храм ператварыўся ў вясковы сметнік з шыльдай "Гісторыка-культурная каштоўнасць Рэспублікі Беларусь""**

У касцёле была вельмі багатая закрыстыя, якая захоўвала не адну памятную рэч з іншых касцёлаў. Тут былі арнаты, шчодра вышываныя золатам і срэбрам, а таксама арнаты, пашытыя са слуцкіх паясоў. А за такі адзін пояс можна было купіць сядзібу і добрага каня. Звяртаў таксама на сябе ўвагу і старажытны барочны арган, якіх цяпер амаль не захавалася ў свеце. Тут шмат працавалі не толькі на рэлігійнай глебе, таксама многа было зроблена грамадскай працы. Касцёл святой Веранікі зруйнавалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

## Сучаснасць

Пачынаючы з 1990-х гадоў, каталіцкія святары сталі прыязджаць у Селішчы і адпраўляць святую Імшу у хаце адной бабулі, дзе збіраліся парафіяне. Іх было няшмат, але затое якія былі адданыя людзі! Яны ведалі ўсе часткі святой Імшы, добра размаўлялі па-польску. А як жа хораша спявалі! Гэтыя, у асноўным старыя людзі былі прывучаныя любіць Бога і Касцёл, што было відаць па іх. Памятаю, як адна бабуля запрасіла ксяндза Ежы Майку, каторы тады працаваў ва Ушачах, на свой 85-ты год нараджэння. Як толькі ксёндз пераступіў парог, старая жанчына заплакала і кінулася цалаваць яму рукі: "А я ж думала вы не прыедзеце, не знойдзеце часу, а вы прыехалі, якую радасць вы прынеслі сваім візітам!"

Час не шкадуе нічога і нікога. Касцёл святой Веранікі ў Селішчы, на жаль, працягвае разбурацца. Некалі велічны храм ператварыўся ў вясковы сметнік з шыльдай "Гісторыка-культурная каштоўнасць Рэспублікі Беларусь".

А калі ўвайсці ўнутр касцёла, то адразу адчуваеш плынь часу, з'яўляешся як бы сведкай тых падзей, якія тут некалі адбываліся, чуеш прыгожы спеў арганіста, бачыш урачысты хрост дзяцей, прысутнічаеш на Першай Камуніі, на вянчанні. А з абраза на цябе глядзіць сваімі мацярынскімі вачыма Божая Маці.



## Рэдакцыя дзякуе!

Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Веранікa Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Малгажата Бервячонак** *(Варанцы)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **парафіяне з Казлоўшчыны**, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Лілія Казлоўская** *(Пагошча)*, **Л. Булаўка** *(Ашмяны)*, **Любоў Карпушэнка** *(Шуміліна)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Валянціна Віткоўская** *(Шудаўцы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

*Місевіч Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# РЭХА ПІЛІГРЫМКІ



**Раніца распачалася дробным дажджом, які то імгліў, то яго кроплі рабіліся буйнейшыя, то сціхаў назусім. Дзень не абяцаў быць сонечным. Але, нягледзячы на такі "мокры настрой" природы, для групы людзей, якія сабраліся каля касцёла Святой Тройцы, што ў в. Канстанцінава Глыбоцкага р-на, дзень абяцаў быць цікавым і насычаным.**

**Алена Татун**

Суботнім ранкам, 9 ліпеня, парафіяне разам са сваім пробашчам, кс. Антонам Лагунёнкам, выправіліся ў аўтобусную пілігрымку на Мядзельскую Кальварыю, маючы намер па дарозе наведаць некалькі касцёлаў. Так сталася, што пілігрымкі такога кшталту ладзіліся ў нас не так часта. Вядома, што шмат у Беларусі цікавых мясцін, звязаных з гісторыяй, культурай, рэлігіяй (і найчасцей усё гэта цесна звязана паміж сабой), якія хацелася б пагладзець, але не ўсё залежыць толькі ад жадання. Парафія наша невялікая, таму не так проста вырашыць усе як арганізацыйныя, так і фінансавыя пытанні. Апошні раз парафіяне мелі магчымасць разам з удзельнікамі нашага хору паехаць і прыняць удзел ва ўрачыстасці Святой Тройцы ў г. Радашковічы ў далёкім 2006 г. Таму зараз з нецярплівасцю чакалі гэтай паездкі.

І вось 37 чалавек займаюць месцы ў аўтобусе, і кс. Антон распачынае малітву, у якой просіць падтрымкі Маці Божай і блаславлення Бога Айца на гэты няблізкі шлях. Кожны ўдзельнік чакаў ад пілігрымкі нечага асабістага: хтосьці пабачыць каменны крыж каля камайскага касцёла, хтосьці даўно ў дзяцінстве быў у касцёле ў Лынтупах і хацеў параўнаць тое, што памятае, з тым, што пабачыць зараз, але кожны вёз у сэрцы асабістую інтэнцыю, каб прайсці з ёю Крыжовы шлях на Кальварыі.

Кіламетр за кіламетрам дарога вяла нас праз Лучай, Паставы, Лынтупы, Камаі, Свір, Нарач. Якая розная архітэктура касцёлаў, такая ж розная і іх гісторыя! І кожны здзіўляе сваёй велічнасцю. Святыя, намоленыя месцы даюць такі моцны штуршок духоўнага ўздыму, што бывалі моманты, калі хацелася ў цішы пабыць сам-насам з Панам Богам. Не шаптаць словы малітвы, не думаць і нават не дыхаць, а толькі маўчаць і адчуваць прысутнасць Бога, Яго магутнасць. У такія хвіліны разумееш, што толькі Бог – адзіны Творца, Валадар нашага жыцця.

Напярэдадні Мядзел. Аўтобус спыняецца каля касцёла Маці Божай Шкаплернай. Мы і так ужо менш гаманілі паміж сабой, уражаныя ўбачаным, а тут яшчэ адно дзіва архітэктуры: касцёл квадратны звонку, а ўнутры мае круглую форму. Айцец Юрый Кулай распавядае гісторыю як самога касцёла, так і Кальварыі, яе цяперашняй рэстаўрацыі, і запрашае на малітву Крыжовага шляху.

Той дзень падарыў яшчэ адзін цуд: калі на працягу ўсёй дарогі нас суправаджаў дробны дождж, то зараз выглянула сонца. Езус чакаў нас і хацеў, каб ніякія парасоны не перашкаджалі нашай малітве. Напачатку а. Юрый просіць прыпомніць сабе інтэнцыю, калі будзем праходзіць праз браму, з якой пачынаецца Кальварыя. Хвіліна цішыні – і мы рушылі... Гэтыя сцяжынкі ў беларускім лесе, паміж бяроз і сосен, каля елак, а часам па полі, дзе з малітваю хадзілі людзі нават тады, калі капліцы былі разбураныя, – усё надавала асаблівы сэнс нашай малітве. Калі Крыжовы шлях будзе пройдзены, адна з удзельніц, Соф'я Хоміч, скажа: "Калі спыняешся ля стацыі, разважаеш над мукай Езуса, і бачыш падмурак разбуранай капліцы, а побач адбудаваную, адчуваеш сувязь з мінулымі пакаленнямі, разумееш, што вера жывая, дзейсная. І што ты адказны за яе перад будучым".

Мы ідзем да апошняй, чатырнаццатай стацыі. Сцяжына зноў паварочвае, і на чыстым узгорку нечакана позірк "выхоплівае" высокі крыж. І толькі калі падыходзім бліжэй, бачым побач яшчэ два. Мяне гэта вельмі ўразіла. Так і павінна быць! Заўсёды наперадзе ў любой справе трэба найперш бачыць Езуса Хрыста і разумець, што ты са сваім крыжам павінен быць побач з Ім.

Потым, калі ехалі дадому, я спытала ў некалькіх чалавек: што кранула іх душу, што запомнілася? І мне адказалі: *"Мяне вельмі ўразіла архітэктура касцёлаў, іх маштабнасць. Я нечакана для сябе адкрыла, што гэта прыгажосць не так далёка ад нас. Не абавязкова ехаць у Еўропу, каб пабачыць старажытны храм. Можна паехаць у Лынтупы, дзе касцёлу св. Андрэя Апостала ўжо больш за 100 гадоў. У ім знаходзіцца цудадзейны абраз Маці Божай Вострабрамскай, у касцёле цудоўная акустыка. А яшчэ можна паехаць у Нарач. Там не толькі ўражвае сам касцёл, дарэчы таксама св. Андрэя Апостала, але з вялікім густам спланаваная і дагледжаная тэрыторыя. Гэта цудоўна! А Крыжовы шлях прайшла з хваляваннем, бо гэта старажытнае, гістарычнае месца перажыло свае ўзлёты і падзенні. Калі разважаеш над чарговай стацыяй, а навокал такая маляўнічая прырода, то прыемна адчуваеш сябе часцінкай гэтай прыроды, а таксама адчуваеш прысутнасць Творцы тут, на зямлі, і духоўную еднасць з Ім."* **(Наталля Місюля, настаўніца)**; *"Увесь шлях ішла са слязамі на вачах. Перапаўняла шчырасць супольнай малітвы, радасць ад таго, што Бог даў такую ласку прыехаць сюды і памаліцца. Буду ўсім распавядаць і раіць наведаць гэтыя святыя мясціны".* **(Марыя Лісіца, пенсіянерка)**.

**"...цуд заключаецца ў тым, што ўсё цікавае, прыгожае, захапляльнае ёсць побач"**

Часам у пошуках чагосьці цудоўнага, незвычайнага, што ўзварухне душу, чалавек гатовы ехаць у іншую краіну, нават за мяжу. А цуд заключаецца ў тым, што ўсё цікавае, прыгожае, захапляльнае ёсць побач. І мы ўсе, калі ехалі дадому, былі ў гэтым упэўненыя. А наша пілігрымка на Мядзельскую Кальварыю таму пацвярджэнне.

# Пілігрымка з Пагошчы

**19 жніўня 2016 года парафія Божай Міласэрнасці з вёскі Пагошча здзейсніла першую пілігрымку ў санктуарый Маці Божай Валадаркі Азёраў, у горад Браслаў, разам са сваім пробашчам ксяндзом Славамірам Самковічам.**

Удзельнікі пілігрымкі былі вельмі задаволеныя і ўдзячныя Богу за такі шанец, які ім выпаў на Юбілейны Год Міласэрнасці: прайсці праз Браму Міласэрнасці дзеля атрымання адпусту!

У пілігрымцы ўдзельнічалі як маленькія, так і людзі старэйшага ўзросту. Самаму старэйшаму было 76 гадоў (!).

Мы вельмі ўдзячныя ўсім тым, хто дапамагаў у падрыхтоўцы да гэтага «мерапрыемства», тым, хто ўдзельнічаў у паломніцтве, і вялікі дзякуй Пану Богу за такое цудоўнае надвор'е, якое суправаджала нас у гэты дзень!

Па прыбыцці нас сустрэў заўсёды энергічны і бадзёры біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Гэта першая пілігрымка, але, спадзяёмся, не апошняя. Мы яшчэ не развітваемся.

*Удзячныя парафіяне*



Каталіцкі ВЕСНІК №9(66) верасень 2016 г.

# Сафія Гуз: "Я зараз бачу больш, чым тады, калі мела зрок"



**Сафія Гуз з вёскі Узмёны, што ў Мёрскім раёне, робіць прыгожыя рэчы з бісеру, даглядае прыгожы сад і клумбу, ловіць рыбу, піша вершы, марыць навучыцца танцаваць усходнія танцы. «Што ж тут незвычайнага?» – можа спытацца чытач. А незвычайнае тут усё, бо Сафія не бачыць – адзінаццаць гадоў таму хвароба забрала ў яе зрок. Журналісты «Каталіцкага Весніка» наведалі яе ва Узмёнах і паразмаўлялі пра яе захапленні.**

**– З чаго пачалося Ваша захапленне пляценнем з бісеру?**

– Пачалося ўсё з таго, што суседка, настаўніца, сказала, што дзяцей у школе займала тым, што купіла бісер, і яны плялі розныя бранзалецікі. Я аднойчы папрасіла яе купіць некалькі пачак бісеру. Яна мне купіла, я знайшла кавалачак дроту і паспрабавала пакруціць.

Я пакруціла і адчула, што штосьці атрымліваецца. Вось так і зацікавілася. Зацікавілася і стала ўспамінаць, што і як у прыродзе. Стала мацаць розныя лісцікі, кветачкі і пачала закручваць так, як сабе гэта ўяўляла. Вось так і атрымалася.

**– Наколькі цяжка Вам гэта рабіць?**

– Гэта не цяжка, гэта цікава. Гэта заўсёды нешта новае, а мне хочацца паспрабаваць чагосьці новага. Вось нешта сама прыдумаю: бяру кавалачак дроту і спрабую круціць. Атрымалася – я рада, калі не – яшчэ раз паспрабую. Таму мне гэта нескладана, мне цікава.

**– Якія ўжо маеце дасягненні?**

– Я ездзіла на рэспубліканскую спартакіяду, прымала ўдзел у мінулым годзе. Першы раз ездзіла на спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы: бегла дыстанцыю ў 60 метраў у суправаджэнні і адціскалася. Я заняла першае месца, ёсць дыплом і залаты медаль.

У гэтым годзе таксама ездзіла на спаборніцтвы. І хаця наша абласная каманда не заняла прызавых месцаў, у асабістым заліку я заваявала другое месца па бегу і першае – па адцісканні.

**– Я чуў, што Вы нарадзіліся ва Украіне. А як патрапілі ў Беларусь?**

– У Беларусі я жыву з 1993 года. Тут жылі сваякі айчыма. Яны сказалі, што тут так добра! Дык мы і пераехалі сюды. Тут я закончыла школу, вучылася ў Віцебску ў швейным вучылішчы. Вось так мы тут і апынуліся, таму што тут добра!

**– Распавядзіце пра сваю сям'ю.**

– Двое дзяцей у мяне, хлопчыкі, і муж. Ужо трынаццаць гадоў як разам. У гэтым доме мы дзесяць гадоў жывём. Раней мы жылі ў Мёрах. Муж уладкаваўся тут на працу, дык мы і атрымалі гэты домік. Мы яго прыватызавалі, зараз садзім сад. У горадзе я б не хацела жыць, мне вёска больш падабаецца.

Я саджу кветкі на двары, саджу сад, мне падабаецца працаваць на зямлі. Па меры магчымасці стараюся рабіць сама, таксама дзеці і муж дапамагаюць.

**– Калі ў Вас здарылася гэта хвароба са зрокам?**

– Адзінаццаць гадоў таму гэта здарылася, я паспела была закончыць вучылішча. Пакрыху стаў падаць зрок, спачатку на левым воку. У паліклініцы сказалі, маўляў, нічога страшнага, прыпісалі каплі. А пасля ў дыягнастычным цэнтры сказалі, што ў мяне адслаенне сятчаткі. Адкуль гэта – не ведаю, бо ў нашым родзе ні ў кога праблем са зрокам не было. У мяне таксама ўвесь час была адзінка па зроку. Таму аднаму Богу вядома, што са мной здарылася. Але, як бачыце, я не падаю духам, не сумую.

**– А адкуль Вы бераце сілы?**

– Ведаеце, ніколі не ўгадаеш, які сюрпрыз табе прыпаднясе жыццё. Таму я лічу, заўсёды трэба быць гатовым да ўсяго, не апускаць рукі і верыць у сябе. Раз ужо так атрымалася ў жыцці, то трэба і надалей годна жыць. Займацца нечым іншым, адкрываць у сабе таленты.

І ведаеце, мне здаецца, што я зараз бачу больш, чым тады. Калі раней я бачыла вачыма, то бачыла гэтыя дрэвы, кветкі, і яны здаваліся мне звычайнымі, такімі, як і павінны быць. А зараз гэта выглядае зусім па-іншаму. Я іду, мацаю лісточак, мацаю снег зімой, калі ён ёсць... І распазнаю ўсё тое, што раней бачыла, па-новаму, па-іншаму, мне гэта цікава.

Адносіны да людзей сталі іншымі, любіш па-іншаму. Я нават не ведаю, як гэта патлумачыць, але зараз я па-іншаму адчуваю людзей. І калі ў маім жыцці з'яўляюцца новыя людзі, я адразу адчуваю, змагу я мець зносіны з гэтым чалавекам ці не. Напэўна, я сваім целам адчуваю энергетыку чалавека. Таму я заўсёды кажу, што я бачу, але бачу па-іншаму.

Яшчэ раз адзначу, што я не крыўдую на лёс. Адзінае, чаму я крыху расстройваюся, гэта калі езджу на абследаванні ў дыягнастычныя цэнтры. Бо ідзеш туды ўсё ж з надзеяй, а табе кажуць: "Не!" Тады ўжо слёзы самі па сабе цякуць. А так я задаволеная тым, што ёсць. Вядома, хочацца і бачыць нешта, але рукі, ногі ёсць, здароўе ёсць, а астатняе будзе.

> **"Я бачу ў снах сваіх дзяцей, хоць у жыцці я іх ніколі не бачыла"**

Ведаеце, я заўсёды думаю, што ёсць людзі, якім яшчэ горш, чым мне. І людзям, з якімі я маю зносіны, калі яны скардзяцца на жыццё, я кажу: падумайце пра тых, каму яшчэ горш. А ў мяне ўсё выдатна!

Яшчэ мяне радуе тое, што ў гэтым жыцці, як і ўсе людзі, я бачу каляровыя сны. Прычым у сне разумею, што я невідушчая. Бо я ўсё бачу ў сне, але хаджу вельмі асцярожна, так, як я не бачу. Я бачу ў снах сваіх дзяцей, хоць у жыцці я іх ніколі не бачыла.

**– Я пачуў, што Вы і рыбу ловіце. Гэта сапраўды так?**

– Так, лаўлю. Пару разоў за лета хаджу на сажалку. Калі цягнуць вудачку, я вызначаю па нацяжэнні жылкі. А зараз, калі я была на спаборніцтвах у Пінску, пазнаёмілася з адным чалавекам, каторы мне патлумачыў, як зрабіць адмысловую вуду, для якой нават паплавок не патрэбны. Вось у наступным годзе, можа, паспрабуем такую вудачку зрабіць.

У мінулым годзе мы з братам і сынам Максімам пайшлі на рыбу, дык я больш за ўсіх злавіла! Такая вось была ў мяне рыбалка.

Праўда, у рыбалоўстве мне яшчэ ёсць куды імкнуцца. Хочацца асвоіць і іншыя снасці, і на зімовай рыбалцы я яшчэ не была. І яшчэ ў мяне ёсць адна мара – навучыцца танцаваць усходнія танцы. Думаю, хутка гэтым займуся.

**– Яшчэ ў Вас ёсць сад. Распавядзіце пра яго.**

– Сад у нас малады, гадоў сем таму пачалі мы яго садзіць. Саджанцы купляем толькі ў аднаго фермера, якога добра ведаем. У нас ужо ёсць дрэў трыццаць, плануем дайсці да пяцідзесяці. *(Тут варта адзначыць, што Сафія праводзіць экскурсію па садзе сама, дакладна паказваючы, дзе што расце).* Акрамя яблынь, у нас ёсць грушы, алыча, вішні, чарэшні, арэх грэцкі плануем пасадзіць.

Я хаджу і радуюся: вось гэта мы пасадзілі, гэта маё, гэта мае яблыкі, мае вішні... Гэта цікава, я радуюся ўсяму гэтаму. Што я магу зрываць тут яблыкі, і мне за гэта нічога не будзе *(смяецца)*. Люблю сама збіраць ягады, садзіць кветкі.

**– Як журналіст каталіцкага выдання хачу ў Вас спытаць, ці верыце Вы ў Бога?**

– Веру, вядома. Я часта ў сваіх думках звяртаюся да Бога. У храм я часта не хаджу, але на святы стараюся наведваць.

**– І дае вера Вам сілы?**

– Нават не ведаю, як адказаць. Спачатку ўздыхаеш: «Божа мой, як усё цяжка і складана!» А пасля дзякуеш Богу за тое, што жывыя і здаровыя, ёсць што з'есці, ёсць дах над галавой, у дзяцей усё добра. Можа мяне і нельга назваць фанатыкам веры, але я веру так, як гэта разумею.

**– Што б Вы сказалі людзям, якія, маючы здароўе, увесь час скардзяцца на жыццё?**

– Такім людзям я б параіла больш глядзець вакол сябе, бачыць тых, каму яшчэ цяжэй. Мне таксама нялёгка, але я не скарджуся, бо я моцны чалавек. Таму трэба пераглядзець сваё жыццё і пачаць думаць па-іншаму. А гэтаму трэба ўвесь час вучыцца. Галоўнае – у любых абставінах заставацца чалавекам.

А яшчэ Сафія Гуз піша вершы і марыць пра тое, каб выдаць свой зборнік. Адзін з яе вершаў мы хочам прапанаваць увазе чытачоў.

**КРИК ДУШИ**

Порой бывает одиноко и хочется рыдать.
Поговорить бы с кем немного, но нечего сказать!
Ночь темна и день как ночь,
В душе пустота и тревога.
Я не могу себе помочь,
Прошу лишь об этом Бога!



*Гутарылі Зміцер Лупач і Леанід Юрык*

# Які санктуарый Вас найбольш уразіў?

**Санктуарыі — гэта багатая рэлігійная, духоўна-культурная і матэрыяльная спадчына Касцёла і народа. Які санктуарый свету Вас найбольш уразіў?**

*Ірына Грэйць*

**Марыя Чарняўская:**
– Нягледзячы на тое, што я даволі шмат падарожнічаю і паспела пабываць у розных месцах Еўропы, усё ж сэрца маё найбольш утульна адчувае сябе ў Будславе. Так, уражвае велічнасць базілікі Святога Пятра ў Рыме і захапляе цішыня парыжскага Сакрэ Кёр, але... У Будслаў я прыязджаю да Маці. І кожны раз, калі я туды вяртаюся, я ўсё больш і больш люблю гэтае месца. Найвялікшае здзяйсненне і радасць там я перажываю падчас будслаўскага фэсту ў ліпені! Столькі людзей, такая канцэнтрацыя веры і малітвы, сустрэчаў і радасці! Самае ж галоўнае ў санктуарыі – гэта дух. У Будславе гэты дух жывы і дзейсны. Тут з любоўю чакае Маці, Якой можна расказаць усё, падзяліцца кожнай радасцю і болем. Тут можна адчуць Яе абдымкі. Нельга не адзначыць і прыгажосць малой базілікі. Упершыню трапіўшы туды, я спачатку падумала, што яна ўпрыгожаная скульптурамі, і толькі потым разгледзела, што гэта таленавіты і ўнікальны роспіс. Сапраўды, будслаўская святыня – гэта наша багатая спадчына, якую мы павінны захоўваць і ўпрыгожваць найперш нашымі малітвамі.

**Клерык Януш Чарнамораў:**
– У жыцці мне давялося пабываць у некалькіх дастаткова знакамітых санктуарыях свету. Гэта былі як Марыйныя санктуарыі, так і санктуарыі святых, дзе захоўваюцца іх мошчы. Але найбольш уразіў мяне санктуарый Маці Божай у Фаціме. У мінулым годзе я меў магчымасць наведаць гэтае святое месца. Там адчуваліся вельмі моцны малітоўны дух, а таксама прысутнасць Марыі і Яе матчыная апека. Дзякую Богу і Марыі, што ў сваім жыцці меў магчымасць наведаць гэтае святое месца і там маліцца.

**Ганна Тарас:**
– У санктуарыі Маці Божай Фацімскай, што знаходзіцца ў Шуміліне Віцебскай вобласці, адчуваю спакой у сэрцы, прысутнасць Марыі, жывую малітву і тую, так неабходную нам Любоў Бога. У Шуміліне вы не знойдзеце цудатворнага абраза ці гістарычных будынкаў. Але там штогод можна ўбачыць сапраўдную Веру, якая жыве. Яе можна ўбачыць, напрыклад, у вачах бабуль, што прыходзяць з суседніх вёсачак. Штогод, прыязджаючы сюды, давяраю Марыі свае турботы, ваганні і радасці, прашу пра заступніцтва для ўсіх родных і дзякую за ласкі, дараваныя ў жыцці.

**Павел Купцоў:**
– Дзякуючы Богу ўжо ў 22 гады свайго жыцця я бачыў шмат розных санктуарыяў свету, але ў маім сэрцы назаўжды застаецца адзін – Нацыянальны санктуарый Маці Божай у Будславе. Калі я першы раз прыйшоў пілігрымам да Маці Божай Будслаўскай, мяне вельмі ўразіў “Вялікі Касцёл”. Тады я яшчэ не ведаў усю значнасць санктуарыя для беларускага народа, але, мне здаецца, адчуў гэта падчас святкавання будслаўскага фэсту. Тыя ўражанні засталіся ў мяне на ўсё жыццё. І кожны раз, калі я прыношу свае падзякі ці просьбы да абраза Маці Божай Будслаўскай, уражанні той першай пілігрымкі ўзнікаюць у мяне зноў і зноў. Мне здаецца, што менавіта гэтыя ўражанні вылучаюць санктуарый Маці Божай у Будславе ў маім жыцці. Не менш значным фактам з'яўляецца тое, што ён «свой», беларускі!

**Святлана Боркіна:**
– Кожны дом Божы па-свойму цудоўны! Я б вельмі хацела пабываць у санктуарыі ў Фаціме і ў Барселоне – у шэдэўры Антонія Гаўдзі «Саграда Фамілія», які бачыла толькі на фотаздымках. Шмат разоў была ў Вострай Браме яшчэ пры СССР, а таксама ў Тракелях, Будславе і Гудагаі, але больш мне мілы мой родны санктуарый Езуса Журботнага ў Росі.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Які санктуарый свету Вас найбольш уразіў?**

- Нацыянальны санктуарый у Будславе – 69 адказаў;
- Санктуарый Маці Божай Чэнстахоўскай у Польшчы – 32 адказы;
- Вострая Брама ў Вільні – 17 адказаў;
- Санктуарый Маці Божай у Лурдзе (Францыя) – 15 адказаў;
- Іншы варыянт у каментарах у сац. сетках – 11 адказаў;
- Санктуарый Маці Божай у Фаціме (Партугалія) – 13 адказаў;
- Латвійская базіліка ў Аглоне – 3 адказы.

**Усяго апытаных – 160 чалавек.**

## Фаўстына – Хрыстова нявеста без пасагу

**У мясцовасці, дзе ў 1905 г. нарадзілася Гелена, будучая святая Фаўстына, не было ні школы, ні касцёла. Яе адукацыя складала тры класы, якія дапамаглі навучыцца пісаць, чытаць і трошкі лічыць.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Росіца*

На нядзельную Імшу ў суседнюю вёску дзяўчынка хадзіла раз на 2–3 тыдні, калі наставала яе чарга апранаць святочнае адзенне. Усе гэтыя жыццёвыя абмежаванні не сталі перашкодай для аб'яўлення праз сястру Фаўстыну вялікай таямніцы Божай Міласэрнасці.

Фаўстына паходзіла з вялікай шматдзетнай сям'і. Яе бацькі былі людзьмі небагатымі, але вельмі стараннымі і пабожнымі. З 14 гадоў дзяўчынка працавала, каб дапамагчы сям'і.

Аднак матэрыяльная незабяспечанасць перашкаджала ёй рэалізаваць манаскае пакліканне. Варшаўскія манастыры замыкалі перад ёй брамы, даведаўшыся, што яна не мае адукацыі і пасагу. Нам сёння цяжка ўявіць, што асоба такой духоўнай сілы, як Фаўстына, не магла знайсці прытулку… Каб стаць сястрой у Кангрэгацыі Маці Божай Міласэрнасці, Фаўстына год працай зарабляла на адпаведны пасаг.

Вельмі часта даследчыкі падкрэсліваюць неадукаванасць сястры Фаўстыны. Але яе жыццёвы сакрэт зусім не ў адукацыі, а ў гераічнай пакоры перад Богам і людзьмі.

Яшчэ маленькай дзяўчынкай яна мела візіі. Распавядала, як бачыла аднойчы Маці Божую ў райскім садзе. Падрастаючы і больш разумеючы Божае пасланне, насуперак бацькам абрала жыццё ў кляштары. Выконвала ў законе цяжкія працы на кухні і ў агародзе. Сама распавядала, што не мела сілы падымаць цяжкае кухоннае начынне і прасіла Божай дапамогі. Аднойчы, падымаючы такую пасудзіну, каб зліць ваду, заўважыла, што яна ненатуральна лёгкая. Зняўшы накрыўку, убачыла бутоны незвычайна прыгожых чырвоных ружаў.

І сёстры, і яе спаведнік успрымалі яе як надзвычай сціплага чалавека, абсалютна далёкага ад пазёрства і людской славы. Яна ніяк не вылучалася ў манаскай супольнасці.

Святая Фаўстына атрымала ад Езуса заданне распавесці свету пра Божую Міласэрнасць. Заданне для вясковай неадукаванай законніцы невыкананальнае. Як можна распаўсюджваць гэтае пасланне, мыючы кухню або капаючы агарод? Звычайны святар мае больш магчымасцей, бо можа прапаведаваць з амбоны, яшчэ больш можа біскуп або сам Папа Рымскі. А Бог захацеў паслужыцца цаціхім і пакорным сэрцам Фаўстыны і выкарыстаў для збаўлення свету яе кароткае 33-гадовае, напоўненае цярпеннем жыццё. Даследчыкі падкрэсліваюць, што Фаўстына вельмі дакладна перадавала словы Езуса і тое, што Ён ёй паказаў. Яна мела дар вялікай духоўнай інтуіцыі, якая кампенсавала недахоп адукацыі.

Сёння многія з нас, калі прыходзіць 15-я гадзіна, шукаюць магчымасці памаліцца Вяночкам да Божай Міласэрнасці. А на Філіпінах на тэлебачанні ў гэтую гадзіну смерці Хрыста на кожным канале з'яўляецца абраз Езуса Міласэрнага.

# Каляндар на кастрычнік



**Кастрычнік – гэта асаблівы перыяд. Асаблівасць гэтая заключаецца ў тым, што на працягу ўсяго месяца вернікі Каталіцкага Касцёла моляцца на ружанцы. І тым самым праслаўляюць Панну Марыю, даяраюць Ёй свае клопаты, праблемы, але таксама і дзякуюць за жыццёвыя радасці. Паважаныя чытачы, заахвочваем усіх Вас да ўдзелу ў штодзённых Ружанцовых набажэнствах ці ў касцёле, ці дома разам з роднымі і блізкімі. Маліцеся на Ружанцы!**

**7 кастрычніка – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.**

**18 кастрычніка – успамін святога Лукі, евангеліста.**

Евангеліст Лука быў антыяхійцам па нараджэнні і першапачаткова язычнікам па веравызнанні. Прыняўшы веру Хрыста ў сталіцы Сірыі, будучы сведка-пісьменнік сустрэўся з найбольш вядомым прапаведнікам Езуса – апосталам Паўлам. Ад яго, а таксама з іншых крыніцаў, ці то запісаных, ці то вусных, ён атрымаў інфармацыю, якую змясціў на старонках Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лука ўдзельнічаў у некаторых місійных падарожжах Апостала Народаў, даследаваў жыццё Хрыста ў Палесціне, вызначаўся мастацкім талентам, быў медыкам па прафесіі. Айцы Касцёла з першых стагоддзяў, а менавіта Ірэнэй з Ліёна (130–202 гг), Клімент з Александрыі (150–215 гг), Эўсэбій з Кесарыі (каля 325 г.), а таксама Канон Мураторыя (каля 170 г.) упэўнена называюць імя Лукі як аўтара трэцяга Евангелля і Апостальскіх Дзеяў. Лічыцца, што Лука загінуў мучаніцкай смерцю за веру.

**22 кастрычніка – успамін святога Папы Яна Паўла ІІ.**

22 кастрычніка 1978 года ўрачыста распачаўся пантыфікат Вялікага Папы Яна Паўла ІІ, які доўжыўся 27 гадоў і быў адным з самых працаглых пантыфікатаў у гісторыі Каталіцкага Касцёла. За час свайго служэння Папа здзейсніў 146 апостальскіх візітаў на тэрыторыі Італіі, 104 замежныя візіты, абвясціў 1338 чалавек благаслаўлёнымі і 482 чалавекі святымі. Сэрца Пантыфіка, шырока адкрытае для ўсіх, а перадусім для Бога, перастала біцца 2 красавіка 2005 г. Ён быў абвешчаны святым 27 красавіка 2014 г.

**28 кастрычніка – успамін святых Сымона і Юды, апосталаў.**

Апостал Сымон перад тым, як далучыўся да супольнасці дванаццаці, належаў да палітычна-рэлігійнай габрэйскай групоўкі, чальцы якой называлі сябе зелотамі (арамейск. кананіт ами) – руплівымі, змагарамі. Пасля ўваскрасення Хрыста ён абвяшчаў Евангелле ў асноўным у Егіпце і Арменіі. Апостал Юда Тадэвуш, які падчас развітання з Хрыстом спытаў у Яго: "Пане, чаму Ты хочаш аб'явіць Сябе нам, а не свету?", напачатку абвяшчаў Евангелле ў Эдэсе, дзе ахрысціў мясцовага цара і ўсіх яго падданых. У знак падзякі за гэта цар Эдэсы падарыў апосталу выяву Хрыста, якую Юда Тадэвуш заўсёды насіў на грудзях. Паводле паданняў, абодва гэтыя апосталы вялі місіянерскую дзейнасць у Сірыі, Персіі і Месапатаміі і разам былі забітыя дубінамі каля 71 г. (па іншых звестках, Сымон быў распілаваны). Цела св. Юды з цягам часу перавезлі ў Рым. І па сённяшні дзень яно знаходзіцца ў базыліцы св. Пятра, дзе шматлікія вернікі аказваюць яму вялікую пашану.

Папа Павел ІІІ у брэвэ ад 22 верасня 1548 г. удзяліў поўны адпуст тым, хто будзе маліцца каля святых рэліквій Апостала ў дзень яго свята, г. зн. 28 кастрычніка. Св. апостал Сымон з'яўляецца апекуном дрывасекаў і лясных работнікаў, а заступніцтва св. Юды Тадэвуша просяць у безвыходных сітуацыях. Вядома, што той, хто ў самых складаных жыццёвых сітуацыях з глыбокаю верою звернецца да св. Юды, абавязкова атрымае дапамогу: калі не тую ласку, пра якую просіць, то духоўную моц, каб несці свой крыж, цалкам аддаючыся Божай волі.



**Святы Юда Тадэвуш.** *Мастак Жорж Дзюмэніль дэ Лятур, 1650 г.*

## На кастрычнік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Балтрукевіч** *(Навагрудак)*;

**4 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*; імяніны адзначаюць **кс. Францішак Кісель** *(Полацк)*, **бр. Францішак Бука OFMCap** *(Маладзечна)*, **кс. Францішак Рудзь**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **а. Міхал Ермашкевіч OP** *(Сянно)*; гадавіну манаскіх шлюбаў адзначае **бр. Францішак Бука OFMCap** *(Маладзечна)*;

**5 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вітальд Пяцельчыц SChP** *(Шчучын)*;

**6 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Ян Пяцюн** *(Асава)*; імяніны адзначае **кс. Артур Малафей** *(Гродна)*;

**7 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Цэзары Міх** *(Скідаль)*; імяніны адзначаюць **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** *(Віцебск)*, **кс. Сяргей Бараўнёў** *(Беразінскае)*;

**8 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Глыбокае)*, **кс. Юзаф Багдзевіч** *(Астравец)*;

**9 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Вайцяхоўскі** *(Каменка)*; імяніны адзначаюць **кс. Дзяніс Шастаковіч MSF** *(Узда)*, **кс. Дзяніс Шмыгін** *(Міжэрычы)*;

**10 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Федук** *(Ражанка)*;

**11 кастрычніка** – імяніны адзначаюць **кс. Аляксандр Багдановіч** *(Хатава)*, **кс. Аляксандр Вітко**, **кс. Аляксандр Мешчановіч**, **кс. Аляксандр Фамяных**, **кс. Аляксандр Махнач SChP** *(Шчучын)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**12 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Свіслоцкі**; імяніны адзначае **кс. Аляксандр Багдановіч**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Юзаф Багдзевіч** *(Астравец)*, **кс. Ежы Федук** *(Ражанка)*, **кс. Аляксандр Пятровіч** *(Гродна)*, **кс. Аляксандр Сасноўскі** *(Гродна)*;

**13 кастрычніка** – імяніны адзначаюць **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*, **кс. Эдвард Сінкевіч SCJ** *(Гродна)*;

**14 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Антоні Пажэцкі OFMConv** *(Гродна)*;

**16 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксандр Шупенька**, **кс. Ігар Анісімаў** *(Слонім)*, **кс. Дзмітрый Урбановіч** *(Смаргонь)*; імяніны адзначае **кс. Аляксандр Шупенька**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вітальд Чурган** *(Юрацішкі)*, **кс. Алег Дуль** *(Ваўкавыск)*, **кс. Алег Шпень** *(Дайлідкі)*, **кс. Павел Звяжынскі** *(Варняны)*;

**17 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Веслаў Даброўскі SDB** *(Наваельня)*;

**18 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Аніскевіч** *(Віцебск)*;

**19 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Дзмітрый Урбановіч** *(Смаргонь)*;

**20 кастрычніка** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **кс. Алег Пятрашка** *(Лядск)*; гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч – Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі;**

**21 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*, **кс. Дзмітрый Лабкоў** *(Гродна)*;

**22 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Лешэк Вітвіцкі** *(Слабодка)*, **кс. Леанард Станкоўскі** *(Солы)*;

**23 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Горбач** *(Астравец)*;

**26 кастрычніка** – імяніны адзначаюць **кс. Дзмітрый Барыла** *(Ракаў)*, **кс. Дзмітрый Урбановіч** *(Смаргонь)*, **кс. Дзмітрый Лабкоў** *(Гродна)*, **кс. Дзмітрый Несцер** *(Геранёны)*;

**28 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка**; дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Багдановіч** *(Хатава)*; імяніны адзначаюць **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч – Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**, **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы)*, **кс. Тадэвуш Качан** *(Канвелішкі)*, **кс. Тадэвуш Крыштопік** *(Квасоўка)*, **кс. Тадэвуш Вышынскі CM** *(Гродна)*;

**30 кастрычніка** – імяніны адзначае **кс. Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі** *(Маладзечна)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Старонку падрыхтавала*
***Марына Ткач***

# Праўда пра інквізіцыю

**Здаецца, ніякая тэма не выклікае такога антаганізму і нянавісці да Каталіцкага Касцёла, як інквізіцыя. На шчасце, у 2004 годзе для навукоўцаў былі адчыненыя ватыканскія архівы, дзе яны маглі больш падрабязна даследаваць касцельную спадчыну і зрабіць свае высновы.**

**а. Віталь Сапега**, *дамініканін, Віцебск*



**"Галілей перад Рымскай інквізіцыяй"** *карціна Крысціана Банці*

## Хто хлусіць пра інквізіцыю?

Каб казаць пра інквізіцыю (дарэчы, гэтае лацінскае слова *inquisitio* перакладаецца як *даследаванне, пошук праўды*) трэба, канешне, разглядаць гэтую з'яву на працягу ўсяго часу яе існавання, а гэта XII-XIX стагоддзі, што, вядома, праз абмежаваны аб'ём гэтага артыкула амаль немагчыма. Таму варта адразу, на самым пачатку, пазначыць, што, нягледзячы на чалавечыя слабасці прадстаўнікоў Касцёла, у большасці на гэтую каталіцкаю ўстанову пастаянна выліваўся паклёп з боку адэптаў пратэстантызму, а таксама прадстаўнікамі перыяду Асветы, якія ў большасці былі масонамі.

Калісьці гэта рабілася планамерна, сёння, хутчэй, ад невуцтва і недахопу крытычнага мыслення. Вядома, каб больш эфектыўна ўдарыць у штосьці або кагосьці, трэба папсаваць яго аўтарытэт. А аўтарытэт церпіць вядома праз што: праз паклёпы, дэзынфармацыю, няпоўную праўду.

Тут, у гэтым кароткім артыкуле, усё ж такі паразважаем, якія былі прычыны з'яўлення гэтай каталіцкай установы, што добрага прынесла інквізіцыя для чалавецтва, а таксама разгледзім галоўныя "крывавыя" інквізіцыйныя постаці і закранём статыстыку.

## Прычыны з'яўлення інквізіцыі

Інквізіцыя як установа з'явілася ў XII стагоддзі, калі палітычная сітуацыя ў тагачаснай Еўропе была напружанай і пагрозлівай для ўсёй грамадскасці (вядома, што аслабленая войнамі і сектанцкімі бунтамі Еўропа магла б быць хуценька заселеная вызнаўцамі ісламу) па прычыне актывізацыі розных небяспечных сектаў, як катараў, вальдэнсаў, альбігойцаў. Сэнс у тым, што Касцёл меў моцную сувязь з дзяржаваю. Нават можна сказаць, што дзяржава атаясамлівалася з Касцёлам і яго дактрынаю.

Таму непаслухмянасць адпаведнай свецкай уладзе (а тады была васальная сістэма) расцэньвалася як здрада і бунт. Гэта пагражала грамадскаму парадку і гармоніі. Таму менавіта свецкія ўлады, мясцовыя князі, сюзерэны, распраўляліся з непаслухмянымі вельмі жорстка, часта караючы іх смерцю. Якраз паяўленне інквізітараў (а інквізітарамі былі не толькі дамінікане, але і францішкане, пасля Рэфармацыі таксама і езуіты) было справай справядлівасці і міласэрнасці.

Інквізіцыйныя суды мелі ў большасці гуманістычную аснову і былі накіраваныя на прабачэнне і навяртанне, а не на знішчэнне.

## "Навінкі" інквізіцыі ў сучаснай судзейскай сістэме

Трэба таксама адзначыць, што дзякуючы інквізіцыі сёння мы маем адпаведную судзейскую сістэму. Менавіта разам са з'яўленнем гэтай каталіцкай установы грамадства вярнулася да старажытнагрэцкай судзейскай культуры, а таксама выпрацавала ў сваю чаргу новыя працэсуальныя элементы, якімі мы карыстаемся па сённяшні дзень.

> **Дзякуючы інквізіцыйнаму абследаванню чалавек з псіхічнымі хваробамі не мог быць асуджаны, а значыць, і пакараны**

Напрыклад, падазраваны ў ерасі мог прасіць, каб яму даслалі абаронцу – адвоката. Таксама на судзейскім пасяджэнні прысутнічалі прысяжныя. Было іх каля дваццаці чалавек, а выбіраліся да гэтай паслугі звычайна аўтарытэтныя людзі. Хаця звычайна рашэнне прымаў суддзя, усё ж такі меў ён абавязак звяртацца да паслугаў прысяжных. Таксама падазраванаму, як і яго абаронцу, суддзя абавязаны быў даць усе сабраныя доказы абвінавачвання.

Акрамя гэтага, ён падаваў колькасць і дакладныя дадзеныя ўсіх сведкаў. Варта падкрэсліць, што тым з іх, якія сведчылі супраць падазраванага ілжыва, пагражала кара – смерць. Таму кожнаму, хто складаў сведчанні, канешне, было над чым задумацца.

Ад XIII стагоддзя інквізітарам дазвалялася адсылаць падазраванага на працэдуру катавання. Трэба, аднак, сказаць, што катаванне ў тыя часы было чымсьці нармальным і выкарыстоўвалася паўсюды. Але ў выпадку інквізіцыі яно мела ў большасці псіхалагічны аспект. Часам "экскурсія" па камерах катавання прыносіла ўжо свой вынік.

Дзякуючы інквізіцыйнаму абследаванню чалавек з псіхічнымі хваробамі не мог быць асуджаны, а значыць, і пакараны. Таму, як можна здагадацца, існавала абавязковае лекарскае абследаванне падазраванага. Паміж іншым медык, беручы пад увагу дрэнны стан фізічнага здароўя абвінавачанага, мог забараніць выкарыстанне катаванняў, а сцвярджэнне псіхічных адхіленняў аўтаматычна прадухіляла падазраванага ад усялякіх катавальных працэдураў.

У сваю чаргу, пакаранне смерцю (звычайна праз спаленне) было даволі рэдкай з'явай. А калі палілі, то ў большасці лялькі, якія проста сімвалізавалі асуджаных ерэтыкоў. Галоўным чынам прымяняліся розныя касцельныя кананічныя пакаранні, як нашэнне ганьбавых знакаў, штраф, розныя формы пакутаў *(пакута – форма раскаяння. Не блытаць з пакутніцтвам і мучэннем. – Заўвага рэд.)*.

## Статыстыка

Безумоўна, трэба сказаць, што на працягу існавання інквізіцыі (XII – XIX стст.) былі таксама і розныя перагібы. Трэба браць пад увагу чалавечы фактар. Кожны чалавек штодня робіць шмат маральных выбараў, і ад гэтага залежыць далейшы лёс не толькі самога чалавека, а таксама людзей, за якіх ён адказвае і з якімі сустракаецца.

Слугі Каталіцкага Касцёла таксама з'яўляюцца людзьмі і часам рабілі свядома ці несвядома памылкі. Але няпраўда, што інквізітары толькі і займаліся тым, што палілі і катавалі людзей. Нават у іспанскай інквізіцыі, якая з цягам часу ператварылася ў тайную дзяржаўную паліцыю, са 125 тысячаў праведзеных працэсаў толькі 1,5 працэнта скончыліся смяротным прысудам.

Што тычыцца рымскай інквізіцыі (трэба адрозніваць рымскую ад біскупскай або ад іспанскай каралеўскай), то, як паказалі архіўныя дадзеныя, адкрытыя ў 2004 годзе, амаль са 100 тысяч абвінавачаных падчас працэсаў на працягу сямі стагоддзяў было прысуджана да смяротнага пакарання толькі каля 100 чалавек.

Кажучы пра каталіцкую, такую "папулярную" ў свеце інквізіцыю, на жаль, амаль ніхто не ўзгадвае пра крывавыя пераслед каталікоў, учыненыя англійскім каралём Генрыкам VIII і яго прэм'ерам Кромвелем, або пра паляванне на чараўніц, здзейсненыя пратэстантамі, лютэранамі і кальвіністамі, калі падазраваных жанчын палілі часта без суду і следства, а пра дзейнасць маскоўскіх карных войскаў дык увогуле жахліва нават успамінаць. Вядома, што ў XVII стагоддзі маскоўскія войскі тры разы прыходзілі ў беларускую Вятку, палячы, рабуючы і знішчаючы сваіх жа землякоў, стараабрадцаў.

Не карэктна падаюцца і маральныя партрэты саміх інквізітараў. Звычайна на гэтую пасаду вызначалі высокамаральных, пабожных і незвычайна адукаваных людзей. Вядома таксама, што славуты іспанскі інквізітар Тарквэмада шмат пасціўся, маліўся, пісаў тэалагічныя кнігі.

> **Як паказалі архіўныя дадзеныя рымскай інквізіцыі, са 100 тысяч абвінавачаных падчас працэсаў на працягу сямі стагоддзяў было прысуджана да смяротнага пакарання толькі каля 100 чалавек**

Вобраз інквізітара Бэрнарда Гі, выкарыстаны постмадэрнісцкім італьянскім пісьменнікам Умбэрта Эка ў "Імені ружы", з'яўляецца толькі прыдуманым ім самім вобразам. На самай ж справе, гэта быў прыстойны, пабожны, высокаадукаваны чалавек.

Адным словам, інквізіцыйная ўстанова, заснаваная Папам Рымскім, паўстрымлівала самасуды, гэта значыць, праліццё нявіннай крыві, прывівала ў грамадстве цывілізаваную судзейскую практыку. І, безумоўна ж, у з'яўленні інквізіцыі прасочвалася адвага, клопат пастыраў тагачаснага Каталіцкага Касцёла пра сваю паству. Для іх было важна, каб, скажам так, авечак не кралі драпежныя ваўкі, каб людзі былі збаўленыя.

Ці важныя для нас, сучаснікаў, наш Касцёл, яго аўтарытэт і збаўленне чалавечых душ?

## Віншую!



*Віншую з Днём нараджэння **біскупа Аляксандра Кашкевіча** (23 верасня), **кс. Віктара Місевіча** (4 кастрычніка), **кс. Андрэя Пышынскага** (11 кастрычніка), **кс. Міхала Стацкевіча** з імянінамі (29 верасня)! Жадаю ім найлепшага здароўя, даўгалецця, плёну ў пастырскім служэнні, добрых людзей, Божага бласлаўлення і апекі Маці Божай! Я ніколі не забываю пра Вас, малюся кожны дзень за Вас і за ўсіх святароў. Удзячная Вам за ўсё!*

***Лілія Кучынская***

## Віншуем!



*4 верасня **ксёндз Антон Лагунёнак** адзначае Дзень нараджэння.*

*Ксёндз Антон для нас, парафіян, дарагі і любімы святар, які імкнецца паглыбіць нашу веру, наблізіць нас да Пана Бога, паказаць сэнс нашага жыцця. Ён дае прыклад, якім павінен быць чалавек, знаходзіць час для ўсіх парафіян. Гэта спакойны, сціплы, вельмі працавіты, добрай душы чалавек.*

*Сардэчна віншуем Вас, паважаны ксёндз Антон! Няхай засеянае Вамі зерне на Божай ніве дае добры плён. Няхай Пан Бог адорыць Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Дух Святы ўзмацняе Вас і памнажае Вашу мудрасць, падтрымлівае ў цярпенні! Няхай будзе трывалым здароўе, заўсёды добры настрой і ўсмешка на твары. Нізкі паклон Вам і шчырая падзяка за працу ў нашай парафіі!*



*Жадаем здароўя і плёну ў працы,*
*Сілы на ніве Хрыстовай змагацца,*
*Верных сяброў, справядлівага лёсу,*
*Вернікаў шчырых, памкненняў узнёслых.*
*Будзем аб гэтым прасіць Пана Бога*
*І апекуна Антонія Святога.*

***Парафіяне касцёла Святога Язафата ў в. Канстанцінава (Глыбоцкі раён)***

## Віншуем!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад шчырага сэрца віншуем нашага земляка **ксяндза Антона Лагунёнка**, які працуе ў вёсцы Канстанцінава Глыбоцкага р-на, з днём нараджэння (4 верасня)! Жадаем шчодрай Божай ласкі, моцы, цярплівасці ў выкананні душпастырскіх абавязкаў, моцнага здароўя, спакойных святарскіх сцежак пад апекай Найсвяцейшай Панны Марыі, Божага бласлаўлення!*

***З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі Лынтупскай парафіі (Пастаўскі раён)***



## Віншуем!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Ад усіх вернікаў парафіі Язафата Кунцэвіча ў вёсцы Канстанцінава Глыбоцкага раёна віншуем галоўнага рэдактара «Каталіцкага Весніка» і канцлера Віцебскай дыяцэзіі **ксяндза Віктара Місевіча** з Днём нараджэння, які ён адзначае 4 кастрычніка.*

*Жадаем моцнага здароўя, апекі Маці Божай, Божага благаслаўлення!*

***Вольга Пяткевіч***

## Шчыра віншуем!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем словы віншавання, вялікай удзячнасці і радасці шаноўнаму **біскупу Антонію Дзям'янку** з нагоды гадавіны біскупскага пасвячэння!*

*Ад усяго сэрца жадаем шчасця, моцнага здароўя, радасці, сонечных дзён, здзяйснення ўсіх мараў! Няхай Езус Хрыстус бласлаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, Святы Дух хай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі!*

*Шчыра выказваем Вам вялікую пашану і ўдзячнасць за Вашу мудрасць, за стварэнне ў 2006 годзе нашай парафіі. Запрашаем Вас да нас у госці.*

***З вялікай павагай, вернікі парафіі Перамянення Пана з Негарэлага***



## Віншуем і дзякуем!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Мы, вернікі браслаўскай парафіі Нараджэння Маці Божай, шчыра віншуем свайго пробашча **ксяндза Станіслава Мжыглуда** з імянінамі, якія ён адзначае 18 верасня.*

*Дзякуем Вам, шаноўны ксёндз Станіслаў, за самаадданую працу, добразычлівасць, прыветлівую ўсмешку і шчырасць Вашага сэрца!*



*З малітвай да Бога, Хрыста-Уладара,*
*Віншуем сардэчна свайго святара!*
*Ад чыстага сэрца здароўя жадаем,*
*Вас Духу Святому заўжды давяраем!*
*Хай сыдзе на Вас і асвятліць святлом,*
*Здароўе ўмацуе, сагрэе цяплом!*
*А Божую Маці мы будзем маліць,*
*Каб Ласкай Хрыстовай святар наш мог жыць!*

*Праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі Валадаркі азёраў шчодрых дароў Духа Святога для Вас просім! Жадаем поспехаў у працы і Божай дапамогі ва ўсіх Вашых марах, натхнення для далейшага плённага служэння Хрысту і яго Святому Касцёлу!*

***Парафіяне з Браслава***



## Паважаны кс. Славамір Самковіч!

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, аптымізму, цудоўнага настрою, поспехаў у Вашай нялёгкай працы, здзяйснення мар і надзей! Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам у кожную хвіліну, а Маці Божая хай заўсёды падтрымлівае і абараняе Вас!*

***З павагай, вернікі парафіі Божай Міласэрнасці у агр. Пагошча (Браслаўскі раён)***

## Віншуем!
## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем **ксяндза Славаміра Самковіча** з Днём нараджэння, які ён адзначае 29 верасня.*

*Паважаны ксёндз Славамір! Сардэчна жадаем Вам спаўнення з Божай дапамогай усіх задумаў, талентy прапаведніка (мы памятаем, як Вы даносілі словы Святога Пісання да самых маленькіх на Імшы для дзяцей). Няхай засеянае Вамі зерне на Божай ніве прыносіць добры плён, хай Пан Бог адорвае ўсімі ласкамі, а Маці Божая падтрымлівае ў цяжкія хвіліны! Здароўя Вам, аптымізму, адкрытых людскіх сэрцаў!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Пахвалёны Езус Хрыстус !

*Паважаная рэдакцыя! Праз вашу газету мы хочам павіншаваць нашага **ксяндза Віталя Маргунова** з Днём нараджэння, які ён будзе адзначаць 2 кастрычніка.*

*Паважанаму ксяндзу-пробашчу Віталю дасылаем самыя сардэчныя пажаданні! Няхай Добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, адорыць патрэбнымі ласкамі! Жадаем апекі Божай Маці ва ўсіх справах. Няхай кожны дзень праходзіць у радасці, а побач будуць добразычлівыя людзі!*

***З павагай, парафіяне касцёла Святога Юзафа, г. Крупкі***



## Віншуем!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*13 кастрычніка адзначае Дзень імянін пробашч парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Опсе **ксёндз Эдвард Ахрамовіч**.*

*Мы, парафіяне, дзякуем Богу, што паслаў нам такога чулага і талерантнага душпастыра.*

*Паважаны ксёндз Эдвард!*

*Сардэчна віншуем Вас з нагоды імянін! Жадаем моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, апекі Маці Ружанцовай і Анёла Ахоўніка!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Яна Хрысціцеля, Опса***



## Хвала Хрысту!

*Віншуем свайго пробашча **ксяндза Марата Казлоўскага** з юбілеем, які ён адзначае 2 кастрычніка.*

*Мы яго вельмі паважаем, любім яго навуку, але незаўсёды даводзіцца яго паслухаць, бо адной з нас далёка за семдзесят, а другой – амаль дзевяноста. А ад нашай вёсачкі Варанцы да Мосара – тры кіламетры. Але мы ўдзячныя ксяндзу за тое, што ён наведвае нас, спавядае, удзяляе Камунію.*

*З нагоды юбілею шчыра віншуем ксяндза Марата і хочам пажадаць:*



*Каб Пан Бог даваў здароўе, сілы*
*І заўсёды ласкай надзяляў.*
*Ды Анёл-ахоўнік каб пад крылы,*
*Кожны раз пры небяспецы браў!*

*Каб заўжды, як пастару і трэба,*
*Статак свой да Бога набліжаў.*
*Каб святы Пётр браму нам у неба,*
*Як сыходзіць будзем, адкрываў!*

***З павагай, Бэнэдыкта Юркевіч і Малгажата Бервячонак***



## Хвала Хрысту!
## Шаноўны кс. Віктар Місевіч!

*Ад шчырага сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, шчодрых дароў Духа Святога, апекі Маці Божай, хай заўсёды спаўняюцца ўсе Вашы задумы, няхай Езус Хрыстус вядзе Вас па жыцці!*

*Мы Вас памятаем і любім, заўсёды рады бачыць Вас у нашай парафіі!*

***З павагай, вернікі парафіі Унебаўшэсця Хрыса ў вёсцы Дзеркаўшчына, Глыбоцкі дэканат***

# Як ахрышчанаму ў праваслаўе стаць каталікам?



*"У мяне па лініі бацькі ўсе каталікі, па лініі маці – праваслаўныя. У дзяцінстве, не пытаючыся ў бацькі, мяне пахрысцілі ў праваслаўе (але архівы згубленыя: маці неяк спатрэбілася даведка пра маё хрышчэнне, дык не змаглі знайсці. У той царкве згубленыя архівы за некалькі гадоў, якраз калі мяне хрысцілі). Я спрабаваў наведваць праваслаўную царкву, але там адчуваў досыць моцны дыскамфорт. Знаходжанне на набажэнствах было там для мяне больш як "абавязалаўка". Я адчуваў сябе ахрышчаным, хутчэй, дзеля нейкіх культурных традыцый, прынятых у нашай мясцовасці, чым вернікам-хрысціянінам. Я быў, хутчэй, атэістам, які вымушаны хадзіць у храм дзеля таго, каб не пакрыўдзіць маці і яе родных, дзеля нейкіх «традыцый».*

*Аднойчы родныя бацькі запрасілі мяне ў касцёл. Хоць і праваслаўныя святары перыядычна казалі пра тое, што ўсе каталікі – ерэтыкі, але я, бачачы прыклад сваіх родных-каталікоў і сяброў, якія ў жыцці з'яўляюцца досыць добрымі людзьмі, выраша ўсё ж схадзіць. Тым больш што Біблія – адна для ўсіх, і Хрыстос таксама для ўсіх агульны. Час на Імшы праляцеў незаўважна. Я выйшаў з касцёла з пачуццём нейкай акрыленасці і палёгкі. Я ўпершыню ў жыцці падумаў, што, напэўна, Бог усё ж ёсць. У наступны раз я ўжо сам папрасіў іх мяне ўзяць з сабою. Так я і хаджу ўжо амаль тры гады. Я стаў па-сапраўднаму верыць у Бога. Стаў многае з таго, што казаў ксёндз, выкарыстоўваць у сваім жыцці. І я бачу, што гэта ў лепшы бок уплывае на маё жыццё.*

*Я нават падумваў пра тое, каб афіцыйна перайсці ў каталіцтва, але ёсць праблема з маці і раднёй па яе лініі. Яна і так досыць негатыўна ўспрымае маё наведванне касцёла. Мірыцца толькі праз маё сумеснае з ёй наведванне праваслаўнага храма на праваслаўнае Божае Нараджэнне. Яе радня ж прапануе прайсці абрад ачышчэння і пакаяння ў знаёмага праваслаўнага бацюшкі, які іх увесь час трэціруе на тэму, што як дапусцілі, каб я з ерэтыкамі звязаўся. Але мае аргументы пра тое, што мяне, па-першае, хрысцілі ў праваслаўе без майго дазволу, а па-другое, нідзе юрыдычна не зафіксавана, што я ахрышчаны менавіта ў праваслаўе, і Праваслаўная Царква ніяк не зможа даказаць, што я належу да яе паствы, застаюцца па-за ўвагай.*

*Але пытанне ў іншым: першыя некалькі наведванняў я рабіў знак крыжа па-праваслаўнаму, але лавіў на сабе касыя погляды ад суседзяў, якія рабілі знак крыжа па-каталіцку. Непасрэднай слоўнай або фізічнай агрэсіі яны не праяўлялі, але твары ў некаторых былі дастаткова незадаволеныя. У наступны раз і да гэтага часу я хрышчуся па-каталіцку. І ўсё нармальна.*

*Адкажыце, наколькі недапушчальна для Касцёла тое, што я, будучы ахрышчаны ў праваслаўе (хоць гэта і юрыдычна, дакументальна нідзе не пацверджана) хаджу на Імшу, па-каталіцку раблю знак крыжа? Як быць, калі мы з будучай жонкай захочам узяць шлюб? Ксёндз жа спытае пра веравызнанне. З аднаго боку, я не магу перайсці ў каталіцтва афіцыйна (і ў грэка-католікі таксама) пакуль жывая маці, з іншага боку, я ніяк афіцыйна не зарэгістраваны як праваслаўны, а ў касцёле ад ахрышчаных у праваслаўе патрабуюць прынесці даведку з праваслаўнай епархіі, што яны ахрышчаныя, але такую даведку я не змагу прынесці, бо дакументы згубленыя, але хлусіць ксяндзу і казаць, што я першапачаткова ахрышчаны ў каталіцтва.., не ведаю... Наколькі магчымы такі кампраміс?"*

*Сяргей*

**На пытанне адказвае а. Андрэй Сідаровіч MIC:**

– Сяргей, Вашыя пытанні можна падзяліць на дзве групы. Першая – гэта асабістыя перажыванні, звязаныя з сямейнай сітуацыяй, другая – што зрабіць, каб стаць каталікам?

Каталіцкі Касцёл прызнае хрост, які быў здзейснены ў праваслаўным храме. Аргумент, што Вас пахрысцілі без Вашай згоды, абсалютна непрымальны ў гэтай сітуацыі – трэба падзякаваць бацькам за тое, што Вас ахрысцілі. Менавіта ласка хросту сёння дае плён у Вашай зацікаўленасці справамі веры. Тое, ці была згода бацькі, трэба пакінуць бацькам, гэта іх непаразуменне ці канфлікт з мінулага. Вы як дарослы чалавек мае права прыняць рашэнне, дзе будзеце практыкаваць веру. Лічу, што гэта не мудра ў такой справе, як вера, чакаць апошняга з мамай развітання.



Мы, католікі, не маем праблем з людзьмі, якія незалежна ад веравызнання і светапогляду прыходзяць у храм, каб папрысутнічаць на набажэнствах. Аднак каб весці поўнае духоўнае жыццё, прымаць удзел у сакрамантах і лічыць сябе паўнапраўным і паўнавартасным католікам, неабходна перад пробашчам мясцовай парафіі скласці вызнанне веры. Гэта фармальны акт, які пацвярджае Ваш выбар. Тэкст вызнання веры практычна не адрозніваецца ад праваслаўнага, але каб быць каталікам, неабходна прызнаваць духоўную ўладу Касцёла і яго кіраўніка – Рымскага Папы. Гэта дазволіць Вам жыць у праўдзе, не лавіраваць і нікога не падманваць.

Няма такіх сітуацый, з якіх немагчыма знайсці выйсце. Паразмаўляйце з пробашчам мясцовай парафіі, ён дапаможа вырашыць справу дакументальнага пацвярджэння Вашага хросту. Такія магчымасці прадугледжаныя ў кананічным праве.

# Ці можна падчас менструацыі прыходзіць на Імшу?

*"Хвала Хрысту! Мяне цікавіць такое пытанне: ці можна падчас менструацыі прыходзіць на Імшу?"*

*Валерыя*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Дарагая спадарыня Валерыя! Актуальныя дакументы Каталіцкага Касцёла не абмяжоўваюць доступ да ўдзелу ў сакрамантальным жыцці ў час менструацыі. І хоць у далёкай гісторыі хрысціянства можна сустрэць тэксты паасобных тэолагаў, якія, спасылаючыся на 15 раздзел Кнігі Лявіта, лічылі, што жанчына ў часе менструацыі павінна ўстрымацца ад удзелу ў літургіі, гэтыя выказванні ніколі не станавіліся часткай паўсюднага навучання Касцёла. Такім чынам, няма аніякіх падстаў, каб лічыць час менструацыі неадпаведным для наведвання святыняў, удзелу ў святой Імшы, набажэнствах і іншых касцельных мерапрыемствах.

Варта нагадаць, што поўны ўдзел у святой Імшы ўключае і прыняцце чыстым сэрцам Святой Камуніі. Калі вернік не мае цяжкіх грахоў, то на моцы хросту мае права з верай, удзячнасцю і радасцю спажываць з эўхарыстычнага стала Хрыстовае Цела, якое ўмацоўвае ў розных жыццёвых сітуацыях у дарозе да святасці.

# Ці павянчае нас святар, калі была інтымная блізкасць да шлюбу?

*"Хвала Хрысту! У мяне такое пытанне: калі мы з хлопцам мелі сексуальную блізкасць і хочам узяць шлюб, у нас святар будзе пра гэта пытацца? Ці паўплывае гэта неяк на шлюб? Шлюб будуць удзяляць з Імшой ці не?"*

*Сафія*



**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– У адпаведнасці з Кананічным правам Каталіцкага Касцёла, «шлюб лічыцца згодай бакоў, законным чынам выяўлены юрыдычна дзеяздольнымі асобамі. Шлюбная згода – гэта акт волевыяўлення, якім мужчына і жанчына з дапамогай неадменнага дагавору ўзаемна аддаюць і прымаюць адно аднаго, каб заключыць шлюб» (CIC 1057). Касцёл расцэньвае ўзаемнае выражэнне згоды паміж сужэнцамі як неабходны элемент, які стварае шлюб. Сярод перашкодаў для заключэння шлюбу няма сексуальнага сужыцця да шлюбу.

Аднак разам з тым не трэба забываць, што шлюб з'яўляецца сакрамантам, а значыць прыняць яго можна толькі будучы ў стане асвячальнай ласкі.

> **«Сярод перашкодаў для заключэння шлюбу няма сексуальнага сужыцця да шлюбу»**

Сексуальныя адносіны да шлюбу – гэта цяжкі грэх, які называецца блудам. Гэтаплоцкая сувязь паміж свабоднымі мужчынам і жанчынай па-за шлюбным саюзам, якая груба парушае годнасць асобы і сексуальнасці чалавека, натуральна прызначанай для шлюбнага дабра, а таксама для нараджэння і выхавання дзяцей» (ККК 2353). Таксама як кожны цяжкі грэх, блуд пазбаўляе чалавека асвячальнай ласкі.

Для людзей, якія пасля хросту ўпадаюць у цяжкі грэх, Хрыстос устанавіў сакрамант споведзі: «Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны, а каму затрымаеце, на тым застануцца" (Ян. 20, 23). Каб вярнуць асвячальную ласку, чалавек павінен шчыра раскаяцца і паспавядацца. «Пакаянне абавязвае грэшніка добраахвотна прыняць усе элементы [пакаяння]: у сэрцы – скруху; у вуснах – споведзь; у паводзінах – дасканалую пакору» (ККК 1450).

# ПАЗНАВАЙКА

*Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.*

## Раскажы пра свой любімы прадмет?

Хутка праляцелі канікулы і пачаўся новы навучальны год. Для хлопчыкаў і дзяўчынак ён будзе напоўнены новымі цікавымі падзеямі і заняткамі. У рамцы, што знаходзіцца ніжэй, раскажы "Пазнавайцы" пра свой любімы прадмет. За што ты яго любіш? Якія заданні на ім выконваеш?



## Пра што не варта забываць?

Што павінен наведваць кожны школьнік на працягу навучальнага года, даведаешся, калі закрэсліш літары, якія паўтараюцца. З літар складзі неабходнае слова. Літары, якія засталіся, складвай зверху ўніз. Адказ запішы.

К С А В Т В Э Ж Х С Е С З В У Ж

## Каго з сабою ў школу заўсёды бярэ хлопчык?

Пастаў палец на клетачку з хлопчыкам з заплечнікам унізе злева. Перамяшчай яго па клетках у кірунку, які паказаны на стрэлках. Дайшоўшы да мэты даведаешся, каго хлопчык раіць заўсёды браць з сабой у школу.






## Знайдзі адрозненні

Хлопчык і дзяўчынка ідуць у школу. Знайдзі 5 адрозненняў на малюнках унізе.



## Каго павінен шанаваць школьнік?

Каб разгадаць гэты красворд, неабходна ў клеткі запісаць назвы малюнкаў, што знаходзяцца побач. Калі правільна разгадаеш красворд, у каляровых клетках атрымаецца слова, якое падкажа, каго павінен шанаваць кожны школьнік?



## Чаму нельга спісваць?

Некаторыя дзеці на занятках у школе не хочуць разабрацца з пэўнай тэмай, зразумець яе, таму часта спісваюць. Калі скарыстаеш падказку і перацягнеш літары на свае месцы, даведаешся, чаму нельга спісваць. Адказ неабходна запісаць.

СПІСВАННЕ – ГЭТА.................




## Памаліся перад навучаннем

Для таго, каб добра вучыцца, кожны дзень маліся наступнымі словамі:

О Добры Божа, прасвятлі нас Духам Тваім Святым, які дае розум і ўмацоўвае духоўныя сілы, каб мы ўважліва спасцігалі ўсе навукі і раслі Табе, Творцу нашаму, на славу, бацькам і настаўнікам нашым на радасць і ўцеху, Касцёлу і Бацькаўшчыне на дабро і славу.

**Амэн.**

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Грэйць***

# Якое ўжыванне нарматыўнае: “ПРЫЕХАЦЬ З ВІЦЕБСКУ” ці “ПРЫЕХАЦЬ З ВІЦЕБСКА?”

**Ужываннеканчаткаў назоўнікаў другога скланення мужчынскага роду адзіночнага ліку ў родным склоне заўсёды выклікае праблемы, бо ў адных выпадках трэба выкарыстоўваць канчатак *–а (-я)*, у іншых – *-у (-ю)*.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Існапраўды, як павінна быць згодна з нормай: *з Віцебску* ці *з Віцебска*, *з Мінску* ці *з Мінска*? Разнабой назіраецца яшчэ і таму, што беларускі класічны правапіс арыентуе на ўжыванне аднаго канчатка, а стандарт сучаснай літаратурнай мовы патрабуе адваротнага.

Марфалагічныя нормы сучаснай беларускай мовы досыць выразна размяжоўваюць выпадкі выкарыстання названых флексій. Гэта залежыць ад значэння слова і цвёрдасці / мяккасці апошняга зычнага асновы. Так, канчатак **-а (-я)** будзе нарматыўны, калі назоўнік абазначае: асобу ці іншую жывую істоту *(сябра, студэнта, шчупака, ката)*; канкрэтныя прадметы *(сшытка, агурка, трактара, вазона)*; арганізацыі, прадпрыемствы, установы *(прафсаюза, завода, універсітэта)*; віды спорту і назвы танцаў *(футбола, хакея, вальса, бастона)*; геаграфічныя ці астранамічныя аб’екты *(Пінска, Лунінца, Марса, Юпітэра)*; адзінкі вымярэння *(градуса, грама, метра, літра)*; навуковыя тэрміны і паняцці *(сінуса, суфікса, ромба, назоўніка.* Але: *склону)*; дні тыдня і месяцы *(панядзелка, чацвера, ліпеня, снежня)*.

Адпаведна з канчаткам **-у (-ю)** ужываюцца назоўнікі, якія абазначаюць: абстрактныя паняцці *(суму, болю, жалю, голаду)*; грамадскія фармацыі, навуковыя плыні, тэорыі, напрамкі ў мастацтве *(капіталізму, дарвінізму, ідэалізму, класіцызму)*; прасторавыя паняцці *(прастору, шляху, лугу, краю)*; часавыя паняцці *(часу, перыяду, этапу, перапынку)*; з’явы прыроды *(дажджу, снегу, туману, агню)*; рэчывы і хімічныя элементы *(напою, цукру, магнію, урану.* Але: *хлеба, бялка, жаўтка, аўса)*; зборныя паняцці *(лесу, гаю, хмызняку, бярэзніку.* Але: *узвода, батальёна, дывізіёна)*.

Калі назоўнік уваходзіць у склад устойлівага спалучэння, то традыцыйна выкарыстоўваецца канчатак **-у (-ю)**: *даць маху, звесці са свету, ні слыху ні дыху, носу* не паказваць і г.д.

У залежнасці ад лексічнага значэння ў канкрэтным кантэксце канчаткі некаторых назоўнікаў могуць вар’іравацца: *сёння – трэцяга лістапада* і *прыйшла пара лістападу*; *абляцела лісце з дуба* і *стол зроблены з дубу*; *няма пропуска ў інтэрнат* і *няма ніводнага пропуску заняткаў*.

Такім чынам, адказваючы на пастаўленае ў загалоўку пытанне, скажам, што згодна з літаратурнымі нормамі павінна быць: *прыехаць з Віцебска*. Таксама, напрыклад, трэба ўжываць: *госці з Мінска, сябры з Полацка, дэлегацыя з Берліна*.

# Віншуем са шлюбам!

**Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка” шчыра віншуе сваю супрацоўніцу Ірыну Грэйць і яе абранніка Паўла Радзевіча са шлюбам!**

Дарагія Ірына і Павел! Жадаем Вам Божага благаслаўлення на Вашым сумесным жыццёвым шляху! Няхай новая сям’я, якую Вы стварылі з дапамогай Божай ласкі, будзе моцнай верай у Бога і адданасцю Касцёлу! Няхай споўняцца ўсе Вашыя самыя смелыя планы і надзеі! Няхай галоўным арыенцірам ва ўсім для Вас будзе ўзаемная любоў і пашана!

Молімся за Вас, віншуем і святкуем разам з Вамі!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 верасня 2016 г.**

***Лк 16, 19-31***

Багацей, на погляд людзей гэтага свету, быў чалавекам досыць паспяховым. Аднак яго шчасце аказалася часовым і прывяло да вечнага пакарання. Сёння мы не ведаем нават, як яго звалі. Тым часам Лазар, Божае дзіця, сын Абрагама, адзін з выбранага народа, у жыцці быў прыніжаны аж да стану “жывёльнага”, жывёлы яму і спачувалі. Прыпавесць, якую расказвае Езус, вучыць нас салідарнасці, павазе да нашых братоў, бо яны Божыя дзеці. Нават тады, калі беднасць ці хвароба стапталі іх годнасць.

*– Ці паважаю я сам сябе, памятаючы пра сваю годнасць Божага дзіцяці?*

*– Ці не паддаюся часам спакусе нянавісці да сябе, страты надзеі на Божую ласку і Божы провід адносна мяне?*

*– Ці салідарны я з беднымі?*

*– Ці паважаю слабейшых за сябе?*

*– Магчыма, сэнс свайго жыцця бачу ў моцы свайго багацця, розуму, улады, прыгажосці?*

*– Магчыма, забываю, што давядзецца памерці і “голым” ісці на Божы суд?*

*– Што спадарожнічае дабру, якое раблю: любоў, павага ці пагарда?*

**2 кастрычніка 2016 г.**

***Лк 17, 5-10***

Разважаючы пра веру, мы часта звяртаем увагу на саміх сябе. Памыляемся, думаючы, што вера – гэта “нейкае нешта”, што чароўным чынам робіць нас лепшымі без нашага ўдзелу. Тым часам вера ў Біблії – гэта рэлігійныя веды плюс асабістая сувязь з Богам і паслухмянасць Яму. Вера – гэта наша супрацоўніцтва з Божай ласкай. Прыманне і адкрыванне свайго сэрца на Божыя дары. Калі чалавек дазваляе Богу дзейнічаць у яго сэрцы і ў яго жыцці, тады Бог робіць вялікія справы. Варта памятаць, што Бог з’яўляецца крыніцай і мэтай усяго добрага, што мы можам зрабіць і што робім у нашым жыцці.

*– Якая мая вера?*

*– Якія мае рэлігійныя веды і ці клапачуся пра іх развіццё?*

*– Якая мая малітва, і што раблю, каб яна была лепшай?*

*– Якая мая паслухмянасць Богу?*

*– Ці пазбягаю я грахоў, асабліва цяжкіх?*

*– Ці выконваю Божую волю? Дзе, у якіх справах, якім чынам?*

*–Ці здрадзецца супрацоўнічаю з Богам?*

*– Ці не хачу сам быць богам свайго свету?*

*– Ці не забываю пра Бога, думаючы, што гэта я з’яўляюся крыніцай дабра?*

**9 кастрычніка 2016 г.**

***Лк 17, 11-19***

Усе дзесяць пракажоных былі аздароўлены Езусам. І толькі адзін чужаземец-самаранін, калі ўбачыў, што ачысціўся, прыйшоў да Езуса і пакланіўся Яму. Ён атрымаў таксама аздараўленне сваёй душы і, прыняўшы гэты дар, вярнуўся, каб вызнаць веру ў Езуса. Гэта галоўная думка Евангелля ад Лукі: Езус прыносіць збаўленне тым, хто ў Яго паверыць.

*– Чаго я хачу: атрымаць ацаленне ад сваёй хваробы ці Езуса?*

*– Пра што я прашу на малітве? Можа, толькі пра справы гэтага свету?*

*– Ці ўмею і ці хачу я падзякаваць Богу на малітве?*

*– Ці дзякую Богу, што Ён прыйшоў да майго сэрца ў Святой Камуніі, у Божым слове, у Сакраманце пакаяння?*

*– Ці прашу аб дарах Святога Духа?*

*– Ці пакланяюся Езусу?*

*– Ці не хачу толькі вырашыць з Ім свае праблемы і вярнуцца да свайго “сапраўднага” жыцця?*

*– Ці не карыстаюся я Богам?*

*– Ці з любоўю прымаю Яго дары?*

*– Ці памятаю, што “я Яго, а Ён мой”?*

**16 кастрычніка 2016 г.**

***Лк 18, 1-8***

Бог справядлівы і ніколі не пакіне без увагі просьбы пакрыўджанага. Трэба нам, як удаве з прыпавесці, прасіць Божай дапамогі. Нельга сумнявацца. Бывае, што патрэбны час для нашага ачышчэння і для ачышчэння нашых інтэнцый. Бывае, што шчырая малітва дапамагае нам зразумець сэнс таго, што здарылася, і прыняць Божую волю. Мы атрымліваем на малітве ўмацаванне і суцяшэнне, як Езус у Садзе Аліўным. Малітва прыносіць супакой у выпрабаваннях, якіх без яе і не вытрымаў бы. Трэба памятаць, што сёння і ў вечнасці Бог чуе нашу малітву, і яна Яму неабыякавая. Праз яе Ён нас пераменяе.

*– Ці малюся?*

*– Ці верны я малітве?*

*– Ці не паддаюся роспачы?*

*– Ці не пакінуў малітвы, засумняваўшыся, што Бог яе чуе?*

*– Ці дазваляю Богу гаварыць са мной у час малітвы?*

*– Ці дазваляю Яму перамяняць маё думанне?*

*– Ці ачышчаю свае інтэнцыі, шукаючы Божай волі?*

*– Ці вучуся на малітве глядзець на справы свайго жыцця з Божай перспектывы?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

# Малітоўнік "Бог Добры"



**У рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" можна замовіць малітоўнік "Бог Добры", які выдала Пінская дыяцэзія ў 2015 годзе.**

У кнізе 36 літаній, Ютрань, нядзельныя Нешпары, малітвы ў падарожжы, на адправіны хлопца ў войска, на жаніцьбу, а таксама шмат старадаўніх малітваў за памерлых.

Пра сваю працу над выданнем малітоўніка распавядае **айцец Пётр Бялевіч**, місіянер-аблат: "Малітоўнік стварылі непрафесійнай групай з чатырох чалавек. Вырашылі зрабіць малітоўнік, які калісьці мелі нашы бабулі. Бо шмат разоў, калі я ездзіў па Беларусі, людзі пыталіся: а што ў вас за кніга, паказваючы на брэвіярый, а чаму ў вас так многа малітваў, а ў нас столькі няма? Людзі прасілі такі малітоўнік, дзе было б шмат малітваў. І я падумаў: а чаму сапраўды не зрабіць малітоўнік на ўсе выпадкі жыцця? Шукаць далёка не трэба было, бо старых кніжак хапае ў кожнага святара, праўда, большасць на польскай мове. Людзі прыносяць часам малітоўнікі ад сваіх памерлых бабуляў, кніжкі, якім сто або нават больш гадоў".

Малітоўнік "Бог добры" – самы ёмісты ў Беларусі. Там сабраныя ўсе распаўсюджаныя і амаль забытыя малітвы, набажэнствы, спевы, характэрныя для Касцёла на нашых землях. **Аб'ём малітоўніка – больш за 1055 старонак.**

**Замовіць малітоўнік можна** ў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка", патэлефанаваўшы па нумары **+375 29 736 53 07** або напісаўшы нам ліст на адрас:

***вул. Савецкая, 1***
***211800 г. Глыбокае,***
***Віцебская вобласць,***

ці даслаўшы запыт на электронны адрас: ***katalickivesnik@gmail.com***

**Кошт малітоўніка – 15 руб.** Ён высылаецца накладзеным плацяжом праз Белпошту. Увага! Замоўца аплочвае ўсе выдаткі па перасылцы.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

# Запрашаем на катэхезу!

**У парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску, у мікрараёне Білева, пачаўся катэхетычны год. 4 верасня адбылося благаслаўленне вучняў і асвячэнне падручнікаў з нагоды новага навучальнага года.**

**Калі яшчэ хтосьці з паважаных бацькоў хоча запісаць сваіх дзетак на катэхезу, калі ласка, званіце па тэл. +375 29 815 09 06. Катэхезу вядзе с. Даша Галубкова. Заняткі адбываюцца па адрасе: вул. Генерала Іваноўскага, 5, Віцебск.**



# Штодзённік з Евангеллем

**У рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" можна замовіць штодзённік з урыўкамі з Евангелля на 2017 год. Штодзённік выдадзены ў Пінскай дыяцэзіі і каштуе 13 руб.**




Урыўкі з Евангелля вызначаныя ў штодзённіку на кожны дзень. Працуючы ці плануючы свой працоўны дзень, з дапамогай гэтага выдання можна таксама паглыбляць сваю духоўнасць.

Каб замовіць штодзённік, трэба патэлефанаваць па тэл.: ***+375 29 736 53 07***, або скласці замову праз наступныя адрасы:

***вул. Савецкая, 1***
***211800 г. Глыбокае,***
***Віцебская вобласць***

e-mail: ***katalickivesnik@gmail.com***

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*



# Падпішыцеся на "Каталіцкі Веснік"!

**Кошт падпіскі:**

**на месяц** – 89 капеек (8900 рублёў),

**на 3 месяцы** – 2 рублі 67 капеек (26700 рублёў),

Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры!**

**Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.**

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

**Дарагія сябры!**

**З'явілася новая магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

1. **Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:** ****363*375295105172*2#***
2. **Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**
3. **Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:** *363*[код пацвярджэння]#
4. **Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

*Рэдакцыя газеты*
*"Каталіцкі Веснік"*


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5690

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 21.09.2016 г. у 10.28

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621


Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь